




# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

21 кастрычніка 2016 года №43 **(1121)**


## Як пражыць на заробак доктара?



Досведам дзеліцца доктар-рэнтгенолаг з Валожына

старонка 3

## Махлярка прасіла браць крэдыты і аддаваць ёй грошы

старонка 4

## Грант у 18 тысяч еўра атрымаў сельсавет на Вілейшчыне

старонка 5

## Спектакль пра каханне раз на год паказалі ў Маладзечне

старонка 18

## Убачыла дачку на білбордзе – ледзь не выпусціла руль

старонка 21



# Маладзечанец купіў дом у Хажове на месцы старых могілак

На здымку: хажовец Адам Нэндза, які расказаў гісторыю месца, на якім пабудаваны дом.

старонка 2

Фота Наталлі ТУР.

ТЭМА НУМАРА

# На ўчастку маладзечанца ў Хажове правядуць раскопкі

МАЛАДЗЕЧНА

**Вёска Хажова, а таксама маладзечанец Ігар, які купіў там дом на вуліцы Камуністычнай, 6, сталі сумнавядомымі на мінулым тыдні. Хіба толькі лянівы вясковец не абмяркоўваў навіну пра тое, што Ігар купіў у Хажове дом на могілках.**



Фота Наталлі ТУР.

Рэшткі чарапоў і касцей знайшоў на сваім участку маладзечанец Ігар. Суседзі кажуць, што Ігар будаўніцтва прыпыніў і не прыязджае сюды ўжо некалькі дзён.

Мясцовыя жыхары ўсе як адзін цяпер кажуць пра тое, што ведалі, што ў 30-х гадах на месцы жылога дома па вуліцы Камуністычнай былі могілкі.

А пачалася гісторыя ў канцы жніўня. Пра яе "Рэгіянальнай газеце" расказаў кіроўца пагрузчыка **Мікалай**:

– Там як было. Гаспадару дома не спадабаўся край разметкі, якую зрабілі будаўнікі. Ён папрасіў мяне капануць трохі правей. Я зачарпнуў зямлю, і з каўша раптам выпаў чэрап. І пакаціўся па двары. Натуральны чалавечы чэрап, нават сківіца была.

Мікалай разам з будаўнікамі спачатку падумалі, што там кагосьці "прыкапалі".

– Зразумейце, глыбіня была невялікая, недзе па калена. Таму мы адразу і не падумалі, што гэтыя косці з колішніх могілкаў. Натуральна, падумалі, што кагосьці ў двары "прыкапалі", таму адразу расказалі пра гэта гаспадару ўчастка і выклікалі міліцыю.

Яшчэ да ўсіх экспертызы, міліцыянер, які прыехаў у Хажова, сказаў, што, мяркуючы па тым, што на чэрапе няма валасоў, яму не менш за 10 гадоў.

А пасля маладзечанскі Следчы камітэт у пастанове аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы вызначыў, што па тых звестках, якія падаў следству занальны архіў, у Хажове на гэтым месцы ў 1930-1932 гадах былі ўніяцкія могілкі.

– Вось што цікава, – працягвае Мікалай, – пакуль мы чакалі міліцыю, пайшоў дождж. І новыя косці сталі самі вымывацца з зямлі. Жудасна, канешне. Мы пагутарылі і з людзьмі, якія жывуць па суседстве. Усе адмахваліся. І толькі адна бабуля, зусім старэнькая, сказала, што папярэджвала гаспадара ўчастка, што тут былі могілкі. Але ён яе, відаць, не пачуў.

Гаспадар дома Ігар пасля гэтага здарэння звярнуўся да ўладаў з просьбай разгледзець яго пытанне і даць яму раўназначны ўчастак, бо жыць на могілках, па зразумелых прычынах, мужчына не хацеў і не мог.

І вось 18 кастрычніка пытанне Ігара разглядзелі на нарадзе ў старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандра Яхнаўца**.

Вынікамі таго, што абмяркоўвалі на нарадзе, з "Рэгіянальнай газетай" падзяліўся начальнік землеўпарадкавальнай службы **Дзмітры Клопаў:**

– Канчатковага рашэння па гэтым пытанні мы пакуль не маем. Адзінае, што па законе мы не можам даць гаспадару раўназначны ўчастак, бо такое магчыма толькі ў тым выпадку, калі дадзены ўчастак забіраецца па тэрміновай патрэбе. Такога ў гэтым выпадку няма. На нарадзе было вырашана правесці на гэтым месцы раскопкі, каб устанавіць, ці былі тут могілкі. Займацца раскопкамі можа толькі спецыяльная служба, таму на колькі гэта часу расцягнецца, адказаць цяжка.

А пакуль, як расказваюць суседзі,

**гаспадар дома №4 па вуліцы Камуністычнай, калі пачалася ўся гэта "заваруха", свой дом таксама прадаў. І яго выкупілі мінчане.**

– Але ж ім пра мінулае гэтага месца ніхто не расказаў, – кажа жанчына, якая жыве побач.

І дадала:

– Дайце мне гэты домік бясплатна, я буду тут жыць. Не пагляджу на тое, што тут нейкія косці.

Мясцовы жыхар **Адам Нэндза** расказаў, што могілак на гэтым месцы не памятае:

– Я ў 1950 годзе нарадзіўся, памятаю толькі, што тут была гара і, здаецца, помнік нейкі стаяў памерам з халадзільнік. Затое памятаю, што, калі мне было шэсць гадоў, ля гэтай горкі мы, малыя, пясочак раскопвалі і даставалі і чарапы, і косці. Іх тады ў магазіне прымалі за грошы.

– Ой, калі падумаць, – разважае яшчэ адзін хажовец **Павел**, – мы ўсе жывём на касцях. Хто там ведае, што было на гэтай зямлі 100, 200 ці болей гадоў таму.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

Хажовец Адам Нэндза прыгадаў гісторыю гэтага месца, і могілак тут на яго памяці ўжо не было.

## Заробак 750 рублёў

касметыка, здароўе, дом — 27%
ежа — 20%
кватрплата і інтэрнэт — 10%
самаадукацыя — 10%
НЗ (недатыкальны запас) — 10%
адзенне і падарожжы — 12%
праезд — 8%
мабільная сувязь — 3%

Як рэкамендуюць мільянеры,
10% даходу мы адкладваем

Інфографіка Зо ХРУЦКАЙ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 13.10 | 20.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9189 | **1,9113** |
| Еўра | 2,1187 | **2,1018** |
| Злоты, 10 | 4,9724 | **4,8979** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0663 | **3,0592** |
| Грыўня, 100 | 7,4004 | **7,4766** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 19.10** | | |
| Еўра | 2.1000/2.1270 | **2.0900/2.1150** |
| Долар ЗША | 1.9000/1.9230 | **1.9000/1.9200** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 12.10 | | 19.10 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 145 300 | 14,53 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 59 000 | 5,90 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 34 000 | 3,40 | 36 500 | 3,65 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 76 000 | 7,60 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 500 | 4,15 | 41 500 | 4,15 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 125 000 | 12,50 | 131 000 | 13,10 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 500 | 1,55 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 14 000 | 1,40 | 14 000 | 1,40 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 25 000 | 2,50 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 40 000 | 4,00 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 5 500 | 0,55 |
| Часнок, 1 кг | 69 500 | 6,95 | 72 000 | 7,20 |
| Капуста, 1 кг | 3800 | 0,38 | 2 500 | 0,25 |
| Морква, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 4 500 | 0,45 |
| Баклажаны, 1 кг | 13 000 | 1,30 | 10 000 | 1,00 |
| Лімоны, 1 кг | 45000 | 4,50 | 37 000 | 3,70 |
| Апельсіны, 1 кг | 38 000 | 3,80 | 35 500 | 3,55 |
| Мандарыны, 1 кг | 52 000 | 5,20 | 43 000 | 4,30 |
| Гранаты, 1 кг | 40 000 | 4,00 | 35 000 | 3,50 |
| Ківі, 1 кг | 31 000 | 3,10 | 24 500 | 2,45 |
| Буракі, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 5 000 | 0,50 |
| Памідоры, 1 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Агуркі, 1 кг | 20 000 | 2,00 | 25 000 | 2,50 |
| Перац, 1 кг | 10 000 | 1,00 | 13 500 | 1,35 |
| Кавун, 1 кг | 3 500 | 0,35 | 3 500 | 0,35 |
| Дыня, 1 кг | 10 000 | 1,00 | 14 000 | 1,40 |
| Кабачок, 1 кг | 7 000 | 0,70 | 12 000 | 1,20 |
| Вінаград, 1 кг | 29 000 | 2,90 | 26 000 | 2,60 |
| Бананы, 1 кг | 18 500 | 1,85 | 21 500 | 2,15 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 7 500 | 0,75 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 19 900 | 1,99 | 25 000 | 2,50 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | 0,30 | 3 000 | 0,30 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

# Як пражыць на заробак доктара?

## Сваім досведам дзеліцца доктар-рэнтгенолаг з Валожына

**ВАЛОЖЫН**

**Вучоба ў Гродзенскім медыцынскім універсітэце, інтэрнатура ў Маладзечне, чатыры гады працы доктарам-рэнтгенолагам у валожынскай бальніцы і актуальны сярэдні заробак у 750 рублёў.**

Фота забяспечана Паўлам ДРОЖЖАМ.

**Павел Дрожжа** распавёў "РГ", якім чынам яго маладая сям'я размяркоўвае сямейны бюджэт.

### "Жаданне дапамагаць людзям дагэтуль не знікла"

28-гадовы Павел працуе на паўтары стаўкі (як доктар-рэнтгенолаг і доктар-рэнтгенолаг, загадчык рэнтгенаўскага кабінета) – гэта 45 гадзін на тыдзень. Паколькі ўмовы працы шкодныя, адна стаўка – гэта 6 гадзін.

– Ідучы ў медыцыну, я ведаў, што ў бюджэтных арганізацыях плацяць няшмат, але жаданне дапамагаць людзям было мацней, – кажа Павел. – Яно і дагэтуль ёсць. Хацелася б, каб праца дактароў вышэй аплачвалася. Калі размаўляю з сябрамі з іншых краін, то разумею, што там нашу спецыяльнасць больш цэняць і плацяць у разы больш.

Звычайна ў медыцыне найвышэйшы заробак маюць гінеколагі, стаматолагі і хірургі, якія аперыруюць. Можна павысіць заробак, беручы дадатковыя дзяжурствы і ахвяруючы пры гэтым вольным часам. "На адну стаўку доктара няма чаго есці, а на дзве – няма калі", – прыгадвае суразмоўца стары жарт у тэму.

### "Адкладваем грошы так, як рэкамендуюць мільянеры"

Штомесяц Павел мае ў сярэднім 750 рублёў – без дзяжурстваў, з даплатай за шкодныя ўмовы працы, з надбаўкамі, прэміямі і адлічанымі падаткамі. Сям'я ў Паўла пакуль невялікая – ён і жонка **Наталля**. Наталля таксама працуе ў бюджэтнай сферы, яе заробак прыкладна ў два з паловай разы меншы.

– Бюджэт у нас агульны, – тлумачыць Павел. – У асноўным я аплачваю ўсе расходы. Калі нам не нешта не хапае – дадае жонка.

На кватэрплату і інтэрнэт у месяц ідзе 65-70 рублёў, яшчэ 25 – на мабільную сувязь. На ежу атрымліваецца 100-150 рублёў штомесяц. Часам маладой сям'і некатрыя прадукты даюць бацькі, тады на харчаванне выдаткоўваецца яшчэ менш.

– Адзенне мы не набываем штомесяц, таму не выношу яго ў асобны пункт, – каментуе суразмоўца. – Але каб купіць нам з жонкай дзве пары зімовых ботаў, трэба рублёў 400…

Паколькі Павел з Наталляй перыядычна ездзяць у Маладзечна і Мінск, на праезд ідзе 50-60 рублёў. Да таго ж пара імкнецца ўкладваць грошы ў самаадукацыю. Кнігі, дыскі, удзел ў канферэнцыях, напрыклад, па здароўі, матывацыі ці прадпрымальніцтве, – на гэта сям'я выдаткоўвае каля 70 рублёў у месяц.

Тавары для дома, якасная касметыка для жонкі, тавары для здароўя – значная частка расходаў, якую пара называе "добрай інвестыцыяй". Яна забірае прыкладна 200 рублёў у месяц.

– Мы намагаемся хаця б 10% даходу адкладваць як недатыкальны запас. Дакладна так, як рэкамендуюць мільянеры, – усміхаецца Павел. – У маім выпадку гэта 75 рублёў. Тыя грошы, што застаюцца, ідуць на непрадбачаныя расходы, падарункі і забавы. А тое, што застаецца ад двух нашых заробкаў пасля адкладання ў "недатыкальны запас", ідзе на адзенне і падарожжы. Сумы там невялікія. Каб яны былі большымі, трэба і заробак мець больш альбо мець дадатковыя падпрацоўкі.

На пытанне аб тым, што зрабіць з вялікай сумай грошай, калі б тая раптам звалілася на галаву, у Паўла ёсць грунтоўны адказ: частку грошай інвеставаць, частку аддаць на дабрачыннасць, набыць нерухомасць ды адправіць сваіх бацькоў і бацькоў жонкі на добры адпачынак.

– Вялікімі грашыма трэба ўмець карыстацца, – заўважае Павел. – Каб, раструціўшы іх, не апынуцца ў фінансавай яме. Таму я пакуль трэніруюся на малых сумах, каб быць гатовым да вялікіх грошай.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

● НАВІНЫ

## Больш за чатыры тысячы літраў вадкасці, якая ўтрымлівае спірт, знайшлі ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА**

У гаражных кааператывах №6 і №9 супрацоўнікі аддзела барацьбы з эканамічнай злачыннасцю Маладзечанскага РАУС знайшлі вялікі аб'ём вадкасці, што ўтрымлівае спірт.

Вадкасць незаконна, без неабходных дакументаў, прывезлі з Расіі. Перавозілі яе пад выглядам сродку для ачысткі труб у нафтагазавай прамысловасці.

Раніцай вадкасць знайшлі ў шостым гаражным кааператыве, удзень – у дзявятым. Жыхары Маладзечна незаконна захоўвалі яе ў сваіх гаражах.

За гэта, па словах намесніка начальніка Маладзечанскага РАУС падпалкоўніка **Уладзіміра Васількова**, вінаватых чакае штраф да 100 базавых велічынь.

Знаходка – самая вялікая за гэты год – больш за 4000 літраў.

Цяпер праводзяць экспертызу знойдзенай вадкасці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Раскрылі забойства жанчыны, цела якой знайшлі ў Вілейскім вадасховішчы

30 верасня на Вілейскім вадасховішчы на адлегласці 300 метраў ад берагавой лініі быў знойдзены труп невядомай жанчыны ў спартыўнай сумцы з прыкметамі гвалтоўнай смерці.

Следчы камітэт па Мінскай вобласці ўзбудзіў крымінальную справу па артыкуле забойства Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Некалькі гадоў цела пацярпелай прабыло ў вадзе, таму ў следства былі складанасці ва ўстанаўленні асобы загінулай і абставінаў яе смерці.

У ходзе аналітычнай работы ўстаноўлена, што забітая – жыхарка Мінска, 1974 года нараджэння, якая лічылася без вестак зніклай з мая 2013 года.

Праваахоўныя органы ўстанавілі, што дачыненне да забойства жанчыны мае яе былы муж.

На першапачатковым этапе расследавання ўстаноўлена, што забойства адбылося ў пачатку мая 2013 года ў арандаваным ім гаражы ў Мінску. З мэтай утойвання злачынства мужчына на аўтамабілі вывез труп на Вілейскае вадасховішча, дзе ўтапіў.

У цяперашні час працягваецца актыўная работа з затрыманым, праводзіцца комплекс следчых дзеянняў, накіраваных на высвятленне ўсіх абставінаў злачынства, а таксама замацаванне першапачатковых атрыманых доказаў. Пра гэта піша сайт Следчага камітэта Беларусі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Жыхар Светлагорска падманваў смаргонскіх прадпрымальнікаў

**СМАРГОНЬ**

Жыхара Светлагорска падазраюць у тым, што ён выманьваў грошы ў смаргонскіх прадпрымальнікаў. Мужчына абяцаў ім выраб і размяшчэнне рэкламнай прадукцыі на схемах руху рэйсавых аўтобусаў. Пра гэта паведамляюць на афіцыйным сайце Следчага камітэта Беларусі. Цяпер шукаюць пацярпелых.

Падазраваны знаходзіў кліентаў у інтэрнэце. Заказчыкаў ён прыцягваў нізкімі расцэнкамі. Атрымліваў заказы, распрацоўваў эскізы праекта.

Але пасля атрымання пералічаных грошай свае далейшыя абавязацельствы не выконваў. Так ён падманваў прадпрымальнікаў яшчэ ад 2013 года.

Следчыя мяркуюць, што мужчына так краў грошы ў індывідуальных прадпрымальнікаў, а таксама юрыдычных асоб Гродзенскай, Мінскай, Віцебскай і Брэсцкай абласцей.

Агульны памер матэрыяльнай шкоды больш за 2,5 тысячы дэнамінаваных рублёў.

**Паводле паведамлення Следчага камітэта.**



# Ад рэўнасці біў кулаком, нагамі і гантэллю

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Мужчыну пакаралі шасцю гадамі зняволення.**



Фота VistaNews.ru.

Мужчына двойчы цяжка збіў знаёмую.

У законную сілу ўступіў прыгавор адносна Н. Яго прызналі вінаватым у наўмысным прычыненні цяжкага пашкоджання праз катаванне.

Падчас разбору ўстанавілі, што здарэнне адбылося ў адзін з сакавіцкіх дзён у сваім доме. Пасля таго, як Н. выпіў са знаёмай К., у іх узнік канфлікт з-за рэўнасці.

Н. пачаў катаваць знаёмую. Спачатку ўдарыў у твар, хапаў рукамі за шыю, паваліў, штурхнуў рукой у спіну. Жанчына ўпала на карачкі, і Н. ударыў яе не менш за 21 раз нагамі і рукамі па галаве, тулаве, руках і нагах.

На наступны дзень ён таксама быў п'яны. Перад ім на падлозе сядзела на каленях К. Мужчына стукнуў яе кулаком у твар. Жанчына паваліліся. К. некалькі разоў ударыў яе па галаве металічнай гантэллю, а пасля не менш за 11 разоў біў нагамі і рукамі.

Пашкоджанні пацярпелай аднесяцца да цяжкіх.

Абвінавачаны на судзе віну прызнаў часткова. Ён заявіў, што стукнуў менш разоў. А калі біў, то не думаў, што прычыняе боль і пакуты, таму што збіваў жанчыну нядоўга. Намеру нанесці цяжкія цялесныя ў яго не было.

Падчас суда вінаватасць Н. даказалі цалкам. Пацвердзілі паказаннямі пацярпелай, сведкаў, пісьмовымі і рэчавымі доказамі. Эксперт заключыў, што мужчына ўсведамляў небяспеку сваіх дзеянняў і мог імі кіраваць.

Суд прызначыў пакаранне – пазбавіць свабоды на шэсць год у выпраўленчай калоніі строгага рэжыму. Абвінавачанага будуць прымусова лячыць ад хранічнага алкагалізму і наркаманіі.

Абаронца абвінавачанага падаў апеляцыйную скаргу, але суд апеляцыйнай інстанцыі пакінуў прыгавор без змянення.

**Вікторыя ПАЛЯШЧУК, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст 2 класа.**

# Махлярка прасіла браць крэдыты і аддаваць ёй грошы

## Як не трапіць у грашовую пастку

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Жанчыну пакаралі, але вяртаць грошы давядзецца даверлівым пацярпелым.**

Махлярства па банкаўскіх крэдытах застаецца актуальнай праблемай. Ад гэтага злачынства церпяць і тыя, хто бярэ крэдыт, і тыя, хто яго бярэ.

Схема махлярскага крэдыту простая і не патрабуе ніякіх хітрыкаў. Многія з нас сутыкаюцца з падобнымі сітуацыямі. Сябры, сваякі, калегі ці проста знаёмыя просяць узяць крэдыт на сваё імя ці стаць паручыцелямі перад банкам, у якім збіраюцца браць крэдыт самі. Але не ўсе разумеюць, што бяруць на сябе адказнасць за выкананне абавязкаў перад банкам.

У ліпені суд Маладзечанскага раёна разгледзеў крымінальную справу ў адносінах А. і вынес ёй абвінаваўчы прысуд. Яна ад студзеня 2012 года да верасня 2013 праз махлярства атрымала 5 429 рублёў на сённяшнія грошы.

Жанчына была ў надзвычай цяжкім фінансавым становішчы, але ўпэўнівала знаёмых заключыць крэдытныя дагаворы ў розных банках Маладзечна.

Крэдытныя грошы ахвяры аддавалі махлярцы за няшчаснае ўзнагароджанне. А тая абяцала спраўна выплачваць за крэдыт. Але, атрымаўшы грошы, А. прысабечвала іх і распараджалася, як лічыла патрэбным.

Абвінавачаную пазбавілі свабоды. Але вяртаць грошы па крэдытах і выплачваць працэнты павінны пацярпелыя.

Каб абараніць сябе ад махлярства, не давайце свае грошы іншым нават за ўзнагароджанне.

**Аляксандр ВАСЮТА, намеснік пракурора Маладзечанскага раёна, дарадца юстыцыі.**

## Дружыннікі спынілі 30 правапарушэнняў на чыгунцы

**Добраахвотная дружына – аб'яднанне грамадзян, якія ўдзельнічаюць у ахове правапарадку. Асноўная задача дружыны – дапамагаць праваахоўным органам у ахове парадку.**

Добраахвотная дружына на транспарце ўдзельнічае ў:

– ахове грамадскага парадку, жыцця і здароўя грамадзян і іх маёмасці,

– прафілактыцы і спыненні правапарушэнняў,

– забеспячэнні бяспечнага руху цягнікоў,

– ахове грамадскага парадку ў надзвычайных сітуацыях.

Сябрамі добраахвотнай дружыны могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь пасля 18 год, якія па дзелавых і маральных якасцях, а таксама па стане здароўя могуць удзельнічаць у ахове правапарадку.

На верасень у Маладзечанскім чыгуначным вузле зарэгістраваная адна добраахвотная дружына. У яе ўваходзяць прадстаўнікі пяці прадпрыемстваў, агулам 27 чалавек.

Яны 172 разы выходзілі на дзяжурствы, удзельнічалі ў дзевяці рэйдах. У выніку спынілі 30 адміністрацыйных правапарушэнняў.

Дзякуючы добраахвотнаму ўдзелу работнікаў чыгуначнага транспарту ў падтрыманні парадку супрацоўнікі на належным узроўні ахоўваюць маёмасць, здароўе і жыццё жыхароў і гасцей Маладзечна.

**Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ, інспектар прафарыентацыі Маладзечанскага АУСТ.**

# Грант у 18 тысяч еўра атрымаў Крывасельскі сельсавет на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**Вы думаеце, што крутыя праекты можна зладзіць толькі ў горадзе? А вось і не. Ёсць праекты, што распрацоўваюцца адмыслова для вёскі. Адзін з іх – "Пашырэнне эканамічных магчымасцяў для сельскай Беларусі".**



У Крывасельскім сельсавеце будуць актыўна займацца трусагадоўляй.

Фота ves.lv.

Сёлета на Вілейшчыне ў Крывасельскім сельсавеце якраз і распачалі такі праект. З дапамогай вілейскага таварыства "ЗОВіК" і яго кіраўніка **Таццяны Цітуленкі** сельсавет вайграў грант ад таварыства "Новая Еўразія" на развіццё ўласнай тэрыторыі.

Старшыня сельскага выканкама **Ірына Супрановіч** расказала, што на грант прэтэндавалі 30 сельскіх тэрыторый. Менавіта столькі заявак падалі ў "Новую Еўразію". Арганізатары абралі 12 лепшых. І сярод іх была тэрыторыя Крывасельскага сельсавета.

Ужо летам эксперты прыязджалі ў Крывое Сяло. Яны гутарылі з мясцовымі жыхарамі. Высвятлялі, якія магчымасці ёсць тут для развіцця вёскі. Пыталіся, якой бачаць у будучым сваю тэрыторыю мясцовыя жыхары і сельскія ўлады.

### Турызм, людзі і гаспадарка – гэта наш патэнцыял

У выніку эксперты палічылі, што Крывасельскі сельсавет мае вельмі добры патэнцыял. Гэта людзі і турыстычныя аб'екты. Прывабіць можа маляўнічае ўзбярэжжа вадасховішча, цікавыя храмы ў Рабуні і Касуце.

Яшчэ адзін моцны бок – асабістыя гаспадаркі вяскоўцаў. Іх пакуль і вырашылі развіваць з дапамогай грантаўскіх грошай і з падтрымкай экспертаў.

Ужо праводзіліся першыя навучальныя семінары. Наперадзе – навучанне трусагадоўлі і экалагічнаму земляробству.

Эксперты разам з жыхарамі і ўладамі сельсавета вырашылі стварыць кааператыў, дзе будуць гадаваць авечак, трусоў і свойскіх птушак.

**– У нас у сельсавеце ёсць мужчына, які гадуе каля 300 свойскіх птушак. – распавяла Ірына Супрановіч. – У яго некалькі відаў курэй. Многія з іх незвычайныя. За некаторымі ён нават ездзіў на выставу ў Маскву. Там адно яйко 10 долараў каштуе. Яшчэ ў яго ёсць качкі і гусі. Плануе разводзіць фазанаў.**

А іншы гаспадар, расказала старшыня, гадуе толькі курэй. Але іх каля сотні.

Шмат хто з жыхароў разводзіць трусоў. Трусінае мяса заўсёды добра купляюць. Ужо цяпер на яго ёсць попыт. А кааператыў, лічыць старшыня сельсавета, дасць яшчэ больш магчымасцяў рэалізаваць прадукты з уласнай гаспадаркі.

У некаторых вёсках у людзей становіцца менш кароў. Усе прадукты можна цяпер купіць у магазіне. У нас жа ёсць людзі, якія трымаюць па дзве, а то і па тры каровы, кажа Ірына Супрановіч.

У Крывым Сяле, напрыклад, 375 жыхароў. На іх – 42 каровы. Гэта і так нямала. Калі ж створаць кааператыў, у людзей будзе яшчэ большы стымул працаваць.

### Усталююць білборд, каб прывабіць турыстаў

Для ўласных гаспадарак набудуць інкубатар, машынку для стрыжкі авечак, яйкі для развядзення элітных курэй і гранулятар – прыстасаванне для таго, каб рабіць корм трусам.

Ужо купілі невялікі трактар. Да яго набудуць касілку і прычэп. Гэта ўсё трэба для таго, каб падтрымліваць у парадку тэрыторыю сельсавета. А тэрыторыя немаленькая – 44 населеныя пункты.

Акрамя таго тут праходзяць тры трасы. Уздоўж усіх трэба касіць. Таксама можна будзе аказваць паслугі непрацаздольным жыхарам сельсавета.

Асабліва Ірыну Супрановіч цешыць тое, што ў межах праекта зробяць вялікі каляровы білборд. На ім размесцяць карту Крывасельскага сельсавета з пазначэннем усіх забаўляльных, культурных, турыстычных аб'ектаў.

**Большасць людзей, зацікаўленых праектам, маюць асноўную працу. Аднак дзейнасць кааператыва стане крыніцай дадатковага прыбытку, магчымасцю павысіць дабрабыт сельскіх сямей.**

Білборд усталююць на ўездзе на тэрыторыю сельсавета. Можа, у Сосенцы. Там заўжды бойкі рух, бо праходзіць траса Мінск-Мядзел.

– Хтосьці будзе ехаць па дарозе, убачыць білборд і захоча завярнуць у нашы мясціны, – спадзяецца Ірына Супрановіч.

Тэрмін, адведзены на арганізацыю праекта, дзевяць месяцаў. Ужо ў чэрвені наступнага года ў сельсавеце павінны будуць паказаць, як яны выкарысталі атрыманыя грошы.

А выдзелілі на праект 18 тысяч еўра.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

## Віляйчане атрымалі дыплом на абласным конкурсе

ВІЛЕЙКА

Калектыў аўтарскай песні "Элегія" пад кіраўніцтвам **Таццяны Захарыч** разам з ансамблем гітарыстаў **Уладзіміра Лапціка** "Адэліта" ўдзельнічалі ў абласным фестывалі народнай творчасці "Напеў зямлі маёй".

На фестывалі артысты выканалі песню "Мая Міншчына" на словы **Уладзіміра Цануніна**, музыку Уладзіміра Лапціка. "Элегія", па словах Уладзіміра Цануніна, была адзіным калектывам, які выконваў аўтарскую песню

Члены журы адзначылі выступленне артыстаў з Вілейкі. Дамоў яны вярнуліся з дыпломам і падарункам – радыёмікрафоннай сістэмай. Аднак галоўнае не прыз, а тое, што змаглі паўдзельнічаць, далучыць гледачоў да сваёй творчасці, упэўненая Таццяна Захарыч.

– Уражанні ад фестывалю добрыя. Большасць калектываў выступалі дастойна. Адзінае, не зусім прыемна тое, што некаторыя спявалі пад фанаграму. Усё ж песня павінна быць жывой, – падзяліўся паэт, бард, артыст калектыву "Элегія" Уладзімір Цанунін.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На канцэрце "Жывіцы" гучалі песні нашых землякоў

ВІЛЕЙКА

Кожны год творцы з Вілейкі ўдзельнічаюць у справаздачным канцэрце клуба самадзейных паэтаў і кампазітараў "Жывіца".

16 кастрычніка ў Мінскім дзяржаўным каледжы мастацтваў арганізавалі справаздачны канцэрт творчага клуба Міншчыны "Жывіца". Сярод сяброў клуба ёсць творцы з Вілейшчыны.

Аўтарскія песні гледачам прапанавалі студыя аўтарскай песні "Імпэт" пад кіраўніцтвам **Галіны Кутас** з Ілы і вілейскі калектыў "Элегія". Паэт і бард **Уладзімір Цанунін** сольна спяваў уласныя песні пад гітару.

**Бажэна Мацюк** і **Віктар Кажура** чыталі новыя вершы.

Пра гэта расказала кіраўнік клуба "Жывіца" **Ірына Карнавухава.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Вучні з Вязыні сустрэліся з краязнаўцам Аляксандрам Плавінскім

ВІЛЕЙКА

**Удзячных слухачоў сустрэў у вязынскай школе вайсковец, краязнаўца і пісьменнік Мікалай Плавінскі.**



На сустрэчу прыйшлі вучні 8 і 11 класаў. Афіцыйнай мэтай візіту госця была прафарыентацыйная работа сярод выпускнікоў школы. Бо Аляксандр Плавінскі – выкладчык ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь.

Але ўжо з першых хвілін стала зразумела, што гэта будзе не фармальнае заахвочванне выпускнікоў, а шчырая гутарка з цікавым чалавекам.

Аляксандр Плавінскі – наш зямляк. Ён нарадзіўся ў вёсцы Латыгаль на Вілейшчыне, вучыўся ў латыгальскай школе. Цяпер пісьменннік вывучае гістарычную спадчыну Вілейшчыны, піша кнігі па краязнаўстве.

Аляксандр Плавінскі цікава расказаў вязынскім школьнікам пра службу ў войску, падзяліўся сваімі набыткамі на ніве краязнаўства, адказаў на шматлікія пытанні вучняў і настаўнікаў.

На развітанне пісьменнік падарыў школе сваю кнігу аб гісторыі вёскі Латыгаль.

**Таццяна БУСЛАЎСКАЯ, настаўніца гісторыі Вязынскага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад–сярэдняя школа.**

# “Жаночыя гурты? А каму яны тут патрэбныя?”

МАЛАДЗЕЧНА

**– Не памірай! – можна было пачуць лямант на танцполі Black Fox бара ў Маладзечне ў мінулую пятніцу, 14 кастрычніка.**

Не, ніхто не паміраў, нікому не зрабілася блага. Гэта прыхільнікі гурта “J-Морс” прасілі выканаць яшчэ адну песню пасля таго, як паўтарагадзінны канцэрт гурта ўжо завяршыўся.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што **Уладзімір Пугач**, фронтмэн гурта, лямант пачуў і памерці нікому не даў – песню выканаў.

Пасля канцэрта ля гардэроба – натоўп. Народ абмяркоўвае:

– Таааак, выдалі дык выдалі! Даўно так не адрываўся, – дзеліцца сваімі ўражаннямі хлопец са сваёй спадарожніцай.

Але каля гардэроба не толькі падлеткі і моладзь. Пытаюся ў дзвюх прыстойных дам, што прывяло іх на канцэрт :

– На рабоце запрашальнікі далі, вось і прыйшлі. Не, не расчараваліся, усё спадабалася. Але з большай радасцю пайшлі б на канцэрт у палац.

А яшчэ адна наведніца клуба **Ганна** прызналася, што любіць “морсаў” па іх старых песнях:

– А вось новыя не чула. Таму цікава было параўнаць, ці той гэта “J-морс”, які мне падабаўся, калі я была студэнткай.

**– І як?**

– Той, і нават лепей. Зараз прыйду дамоў, сцягну новыя песні. Больш за ўсё песня “Чмялі” спадабалася, задорная такая.

Гаспадар начнога клуба Black Fox **Аляксандр**




На канцэрт гурта “J-Морс” прыйшло каля 350 чалавек. І пераважна гэта былі дзяўчаты.

Фота Аляксандра ШУМАЕВА.

**Скуратовіч** расказаў, што на канцэрце было каля 350 чалавек. Людзі прыехалі і з Валожына, Смаргоні, Вілейкі, нават з Салігорска.

– Гэта няшмат людзей, на другіх канцэртах было болей, але

> **з хлопцамі з “J-морса”мне спадабалася працаваць больш за ўсё. Простыя такія. У іх райдар быў самы звычайны: абед, вячэра, вада.**

З “Трубяцкім”, напрыклад, было не так. Павел Булатнікаў з парога запытаўся ў мяне, ці бачыў я іх райдар. А з “морсамі” было цяжка ў тэхнічным плане. Яны прафесіяналы і вельмі патрабавальныя да таго, каб усё гучала, як трэба. Але і тэхнічныя моманты вырашылі.

Маленькая зала, прызнаецца Аляксандр, для музыкантаў больш зручная, чым вялікія канцэртныя залы, таму гурты едуць у клубы з задавальненнем.

– Тут жа прамы кантакт з гледачом. Вось яны ўсе парад табой. Людзі танцуюць, скачуць, адгукаюцца. А што ў канцэртных залах? Сядзіш на месцы, толькі што апладзіруеш дзяжурна пасля кожнай песні.

Аляксандр расказаў, што рабіў рамонт у клубе з тым разлікам, каб у гэтай зале праходзілі канцэрты:

– Мяне самога канцэртная дзейнасць цікавіць, я атрымоўваю ад яе задавальненне, бо сам музыкант. Хочацца прывучыць маладзечанскую публіку да добрай музыкі. Але вось у чым парадокс: я ўпэўнены, што **Саладуха** сабраў бы большую залу, чым які-небудзь малады гурт, які іграе крутую музыку.

Быў у практыцы Аляксандра выпадак, калі ён запрасіў выступіць у клубе адзін кавер-бэнд. Хлопцы ігралі добрую музыку, вядомыя хіты.

– І вось адзін наведнік паклікаў мяне і спытаўся, калі гэта ўсё закончыцца. Бо яму хацелася танцаваць пад папсу.

У бліжэйшых планах у Аляксандра зладзіць канцэрты гуртоў “Дай дарогу”, “Дразды”, “Цягніштурхай”, “Дзядзька Ваня”, **Георгія Калдуна.**

– І няпраўда, што “J-морс” – самы дарагі беларускі гурт. “Лепрыконсы” папрасілі суму нашмат большую. Думаем, запрасіць і іх.

**– Сярод пералічаных гуртоў і выканаўцаў няма ні аднаго жаночага імя. Што за дыскрымінацыя?**

– Жаночыя гурты? А каму яны тут патрэбныя? Не пойдзе народ на гэта.

Таксама не проста арганізаваць канцэрт якога-небудзь замежнага гурта, бо для гэтага трэба іншая ліцэнзія.

А вось ранішнікамі абяцаюць перад Новым годам маладзечанскіх дзяцей парадаваць.

– У мяне ёсць машына, якая запускае мыльныя бурбалкі. Ведаеце, як гэта дзецям падабаецца. Чаму б не выкарыстоўваць гэта? А вось кіно, гульні або трансляцыі спартыўных матчаў у Black Fox не будзе.

– Для гэтага ёсць іншыя месцы, а да нас людзі прыходзяць слухаць музыку і танцаваць. Гэтага дастаткова.

**Наталля ТУР.**

## Чытач “РГ” шукае гаспадара імяннога пярсцёнка

МАЛАДЗЕЧНА

**Дакладней сказаць, сваякоў гаспадара імяннога пярсцёнка, таму што гравіроўка на ім указвае на тое, што пярсцёнак зроблены ў 1918 годзе або прымеркаваны да гэтай даты.**

**Яраслаў Абалмасаў** выклаў фота пярсцёнка ў сеціве з просьбай дапамагчы яму інфармацыяй.

А “Рэгіянальнай газеце” ён расказаў:

– Рэч гэта не мая. Убачыў у сябра, а ён гэтаму пярсцёнку не надаваў асаблівага значэння. А мяне як гісторыка гэта рэч зацікавіла. Стаў наводзіць даведкі. Аказалася, што гэта імянны пярсцёнак 86-га пяхотнага палка Войска Польскага, які размяшчаўся ў Маладзечне.

Яраслаў патлумачыў, што, па яго інфармацыі, такіх пярсцёнкаў было ўсяго 16 і ўручалі іх толькі афіцэрам.

– Хутчэй за ўсё, ён і быў знойдзены ў Маладзечне ці цесна звязаны з Маладзечнам. Калі сваякі яшчэ жывыя, то яны таксама будуць шукаць яго ў Маладзечне ў першую чаргу. А, магчыма, яны нават не ведаюць пра яго існаванне. Таму я вельмі спадзяюся на дапамогу, каб перадаць сваякам тых афіцэраў, што пярсцёнак не згубіўся ў стагоддзях.

Пытанне наконт пярсцёнка мы адрасавалі краязнаўцу з Маладзечна **Уладзіміру Садоўскаму:**

– Я пра 86-ы полк ведаю, а вось пра пярсцёнак – не, – адказаў Уладзімір.

Аднак прыгадаў, што ў 2014 годзе перакладаў з польскай мовы ўспаміны ўнучкі **Тэадора Вартэцкага**, які служыў у 86-м пяхотным палку ад 1930 да 1932 года.

Вось што цікава, у сямейным архіве ўнучкі захоўваецца пасведчанне на права нашэння адзнакі 86-га палка. Малюнак гэтага значка супадае з малюнкам на пярсцёнку.

Магчыма, хтосьці з чытачоў газеты цікавіцца гісторыяй і зможа дапамагчы адшукаць звесткі пра гэты пярсцёнак. Чакаем вашых званкоў.

**Наталля ТУР.**




Пярсцёнак 86-га пяхотнага палка Войска Польскага.

Фота забяспечана Яраславам Абалмасавым.

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна** могуць размясціць аб’яву ў “Рэгіянальнай газеце”, не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**☎166**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21013 па запчастках. Т. (8-033) 6962074.*
- ВАЗ-2107, 1992 г.в, 1,5 бензін. Т. (8-029) 2639924.*
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Івеко-Турба-Дэйлі 49-10, 1994 г.в, 2,5ТД, добры стан, 10000 руб., торг. Т. Вэлком (8-029) 3156897.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Пежо-405, 1996 г.в, белы, 1490 руб. Т. (8-029) 9227164 Дзіма.
- Ровер-416, 1997 г.в.Т. (8-0176) 548468, Вэлком (8-029) 6026589.
- Рэно-19, 1990 г.в, 1,7 бензін, добры стан, 1900 руб.
- Сітраэн Эвазіён, мінівэн, 1999 г.в, 1,8 бензін, 7400 руб, торг. Т. (8-029) 5577421, (8-029) 9414735.
- Сітраэн-Ксантыя, 1998 г.в, на хаду, 2,1 дызель, магчымы абмен на ВАЗ-2121 Ніва. Падрабязнасці па тэл. (8-029) 6051086.
- Таёта-Карола, 1999 г.в, 2,0Д, 4 л на 100 км, 3999 руб. Т. (8-029) 6575486, (8-029) 8417340.*
- Чэры-Тыга, 2010 г.в, 1,8 ГБ, 10000 руб. Т. МТС 5676832.
- Ява-350 (634), 1979 г.в, 12 вольт, добры стан. Т. (8-044) 4703638.
- Гума зімовая Nokian 195/65 R15 – 4 шт. з жалезнымі дыскамі. Вагончык для будматэрыялаў. Т. Вэлком (8-044) 5749372.*
- Аўташыны любых памераў ад 13 да 22,5 і сельскагаспадарчыя колы. Шынамантаж на месцы. Т. (8-029) 6032178, (8-029) 7539495.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра па вул. Чыгуначнай у Маладзечне. Т. (8-029) 5721463.
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 1139658.*
- 2-пакаёвая кватэра з усімі выгодамі ў а.г. Людвінова Вілейскага р-на, агул. плошчай 46,8 кв.м. Т. (8-029) 3345498.*
- 2-пакаёвая кватэра ў в. Любань Вілейскага раёна, санвузел сумесны, цэнтральнае ацяпленне, 16000 бел. рублёў. Т. МТС (8-029) 2702418.
- 2-пакаёвую кватэру, 5/5. Т. Вэлком (8-029) 6801663.*
- 3-пакаёвая кватэра 108,6 кв.м у Вілейцы. Т. 6795426, (8-029) 2524842.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Будаўнікоў, 6; цагляны, 4/9, 67,7-38,7-8,2. Т. Вэлком (8-044) 5167223, МТС (8-033) 3821485.
- 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Т. (8-01592) 41967, (8-029) 3073122.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- 4-пакаёвая кватэра, 76 кв.м, у Маладзечне па вул. Крынічнай. Т. (8-029) 3840109.*
- Гараж у ГК №14 г. Маладзечна, вул. Новы Свет. Т. Вэлком (8-044) 5167223, МТС (8-033) 3821485.
- Гараж у Маладзечне ў ГК №32 “Фестывальны”. Вароты 2,7х2,7 м. Гараж 6х5,2 м. Магчымы абмен на аўтамабіль. Т. (8-029) 6374541.*
- Дача ў Забалоцці. Т. (8-029) 2608541.*
- Дача, лазня ў в. Прынта Вілейскага раёна, лес, грыбы, ягады, рыбалка (р. Нарачанка). Т. МТС (8-029) 2521686.*
- Дом драўляны ў Мядзеле з уцепленай мансардай. Усе цэнтральныя камунікацыі. Гаспадарчыя пабудовы. Участак 8 сотак. Т. (8-029) 1900167.*
- Дом жылы драўляны ў добрым стане, 30 сотак, ёсць склеп, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы, 8 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 3641985 Вэлком, (8-017) 3931132 (хатні).*
- Дом новы ў в.Снежкава. Т. МТС (8-029) 2516187.*
- Дом у в. Ракуцёўшчына, газ, калодзеж, склеп, 20 сотак, торг. Маладзечна. Т. (8-029) 8743771.
- Дом у в. Цынцавічы. Т. (8-033) 6056455.
- Дом у Маладзечне; выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Катэдж у цэнтры пасёлка Чысць, два паверхі, усе камунікацыі, цёплыя падлогі, убудаваная кухня, лазня, два гаражы, ландшафтны дызайн. Магчымы абмен ці арэнда. Т. (8-029) 7051915, 8-0176 706220.*
- Пакой у 2-пакаёвай кватэры. Т. Вэлком (8-029) 6801663.*





# Падземная небяспека

УП «Мінскаблгаз» Молодечно МЕЖРАЙ ГАЗ

**Нягледзячы на праводзімую работу па прафілактыцы парушэнняў пры вытворчасці будаўнічых і земляных работ, маюць месца выпадкі пашкоджання падземных газаправодаў пры іх выкананні. У выніку адключаюцца спажыўцы ад газазабеспячэння, наносіцца матэрыяльная шкода, ствараецца аварыйная абстаноўка, узнікае пагроза здароўю і жыццю насельніцтва, працуючага персаналу.**

Змэтай захавання ў цэласці ўздоўж газаправодаў устаноўлены наступныя ахоўныя зоны (ад восі газаправода з кожнага боку): для нізкага ціску – 2 метры, сярэдняга ціску – 4 метры, высокага ціску II катэгорыі – 7 метраў, высокага ціску I катэгорыі – 10 метраў.

Філіял ВУ “Маладзечнагаз” звяртае ўвагу кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўладальнікаў прыватных дамоў на выкананне мер бяспекі пры правядзенні земляных работ у ахоўных зонах газаправода.

Згодна з “Палажэннем аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб’ектаў газаразмеркавальнай сістэмы, размерах і рэжыме іх карыстання”, зацверджанага пастановай Савета Міністраў РБ ад 06.11.2007 №1474, для пачатку работ у месцах размяшчэння газаправодаў як юрыдычным, так і фізічным асобам неабходна атрымаць пісьмовы дазвол газазабеспячэнскай арганізацыі, удакладніць на мясцовасці дакладнае размяшчэнне газаправода, для чаго папярэдне (за суткі) выклікаць прадстаўніка газавай гаспадаркі.

Перад пачаткам раскопак для ўдакладнення размяшчэння газаправодаў і глыбіні іх залягання выканаўцам работ павінна быць зробленае шурфаванне (кантрольнае ўскрыццё) газаправода пад наглядам прадстаўніка філіяла ВУ “Маладзечнагаз”. Пры гэтым выканаўца работ павінны пазначыць трасы газаправода і збудаванні на ім, забяспечыць іх захаванасць на ўвесь перыяд правядзення работ.

Парушэнне патрабаванняў “Палажэння...” і пашкоджанне газаправода цягне за сабой складанне пратаколу на вінаватую асобу з накладаннем штрафу ў памеры ад трыццаці да пяцідзесяці базавых велічынь.

**Выплата штрафу не вызваляе вінаватых ад пакрыцця нанесенай матэрыяльнай шкоды ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.**

**Філіял ВУ “Маладзечнагаз”.**
**УНП 100 008 077.**





**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |

## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Спектакль пра каханне раз на год паказалі ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**У іх уласныя сем'і, паспяховая праца і шасцёра дзяцей на дваіх. І разам з тым пачуццё, быццам чагосьці не хапае. Таму раз у год у адны і тыя ж выхадныя яны падманваюць свае сем'і і сустракаюцца ў амерыканскім гатэлі, каб пабыць разам.**

У драматычным тэатры ў Маладзечне гастролі гомельскіх акцёраў завяршыліся спектаклем "Там жа, тады ж". Амерыканскі драматург **Бернард Слэйд** напісаў п'есу ў 1975 годзе. Дзеянні ў спектаклі адбываюцца ў ЗША ў другой палове 20 стагоддзя.

Пра тое, што п'еса не траціць сваёй актуальнасці, сведчыць яе доўгае сцэнічнае жыццё і поўная зала гледачоў тэатра.

Прыгажуня **Дорыс (Святлана Яфімава)** прачынаецца ранкам у гатэльным нумары ў адным ложку з **Джонам (Юрыем Марціновічам)**.

**У адрозненне ад свайго партнёра яна выдатна памятае ўсё, што тут адбылося.**

Выпадковая сустрэча ў рэстаране закончылася ноччу жарсці і кахання. А цяпер героі мусяць вяртацца ў шэрую рэальнасць.

Джордж пакутуе ад пачуцця вінаватасці перад жонкай. Дорыс не можа сабе дараваць, што здрадзіла цудоўнаму мужу. І разам яны ўяўляюць вочы сваіх дзетак. Але без такіх сустрэч героі ўжо не змогуць.

На наступны год у той жа ўік-энд, у тым жа нумары гатэля, нават пад тую самую музыку, яны сустракаюцца. Зноў каханне і жарсць.

Гэта пры ўсім пры тым, што Джордж – клапатлівы бацька. Яго ледзь не да слёз кранае малочны зубок, што выпаў у дачкі. Хвалююць падлеткавыя праблемы сына. Дорыс ж перажывае за мужа, які абанкруціўся.

З кожнай новай сцэнай спектакля разумееш, што ноч кахання – гэта не адзінае, дзеля чаго героі 25 год будуць сустракацца.

Кожнаму з іх патрэбны чалавек, які можа зразумець, падтрымаць, развесяліць. Нарэшце, проста пагаварыць пра тое, што не заўсёды можаш сказаць мужу або жонцы.

Мы ж не толькі палюбоўнікі, мы – сябры, кажа Дорыс у адной са сцэн. А Джон заўважае, што калі скласці ўсе іх сустрэчы раз на год, атрымаецца, што ў іх яшчэ пакуль мядовы месяц.

А можа, героям варта было б перастаць падманваць сем'і, расказаць ім пра ўсё і жыць разам? Такія думкі часам з'яўляюцца і ў Джона, і ў Дорыс.

Але тады такія прыгожыя рамантычныя адносіны закончацца спакойным і зручным шлюбам. А такі ў жыцці кожнага ўжо ёсць.

Героі дасягаюць поспехаў у сваёй працы, у іх узнікаюць узроставыя праблемы са здароўем, вырастаюць дзеці, нараджаюцца ўнукі. Нязменнымі застаюцца толькі іх сустрэчы там жа, тады ж.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Сцэна са спектакля.

## Пакуль толькі чацвер: як дашкольнікаў навучаюць роднай мове

МАЛАДЗЕЧНА

**Неяк забірала дачку з дзіцячага садка.**

"До свидания," – крыкнула яна на развітанне выхавальніцы. Але тут жа выправілася: "Ой, не так сказала. Да пабачэння!"

Аказалася, сёння ў іх у садку беларускамоўны дзень.

Увечары, зазірнуўшы на сайт дзіцячага садка, убачыла эмацыйны заклік: "Паважаныя бацькі! У нашым дзіцячым садку кожны апошні чацвер месяца праходзіць беларускамоўны дзень. На працягу ўсяго дня мы размаўляем на беларускай мове з дзецьмі. Размаўляйце разам з намі па-беларуску!"

Як патлумачыла загадчыца садка №24 **Наталля Есмановіч**, ужо некалькі гадоў на нарадзе ў жніўні работнікі дзіцячых садкоў горада самі вырашаюць, які дзень будзе беларускамоўным. У іх садку абралі апошні чацвер месяца.

У гэты дзень усе выхавальнікі праводзяць заняткі і пішуць свае планы на беларускай мове. На роднай мове дзецям чытаюць кніжкі, задаюць вучыць вершы, размаўляюць з імі.

А каб правільна данесці ўсё да малых, педагогі мусяць вучыцца самі. Напярэдадні беларускамоўнага чацвярга ў садку ладзяць заняткі для выхавальнікаў. Гэта педагагічныя марафоны, гутаркі і майстар-класы па беларускай мове.

Уявіце сабе, што дарослыя сур'ёзныя выхавальнікі на такіх занятках могуць... пагуляць. Напрыклад, у гульню "Перакладчыкі". Звычайна такія мерапрыемствы ладзіць намесніца загадчыцы.

Наталля Есмановіч расказала, што педагогі не адразу лёгка прывыклі да беларускамоўнага дня. Былі пэўныя цяжкасці. Але беларуская мова вельмі прыгожая, лічыць жанчына. Яна "зацягвае", і хутка педагогам самім становіцца цікава.

Выхавальніца **Наталля Латышонак** працуе ў старэйшай групе. Яна расказала, што напачатку вывучаць родную мову дзецям было проста весела. Іх смяшылі незразумелыя словы і нязвыклае вымаўленне. Сёння веселосць змянілася цікавасцю.

Таму цяпер у дзень роднай мовы смеху менш, а пытанняў больш. "А што гэта?", "а як па-руску тое?" – чуваць ледзь не пасля кожнага слова педагога.

Часам дзецям не проста вымавіць словы на роднай мове. Асабліва "не даецца" ў – у нескладовае.

Аднак надыходзіць канец дня, і дзятву ўжо не здзіўляе, што "дыван" гэта "ковёр", а не "диван", як ні дзіўна. Многія словы роднай мовы дзеці з радасцю адкрываюць для сябе. Выхавальніца прыгадвае, як некалі ў такі дзень малым вельмі спадабалася слова "дзьмухавец".

Асаблівая ўвага ў беларускамоўны чацвер – словам і зваротам ветлівасці. "Смачна есці!", "калі ласка!", "дзякуй!", "да пабачэння!" – чуецца ў групе.

Беларускамоўны дзень у садку заканчваецца ў 17:30. І вось тады ў сем'ях пачынаецца беларускамоўны вечар для бацькоў.

Не ўсе мамы і таты ў паўсядзённым жыцці карыстаюцца роднай мовай. Калі ж па-беларуску размаўляе дзіця, хочацца на яго раўняцца і адказваць па-беларуску.

Адмоўных водгукаў ад бацькоў наконт беларускамоўнага дня ў садку педагогі не чулі. Аднак і зваротаў, каб такі дзень праходзіў не раз на месяц, а часцей, таксама пакуль не было.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Жыццё за панскім часам

## Успаміны Івана Ілліча Варановіча, былога сябра Таварыства беларускай школы ў вёсцы Касічы

*Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары.*

**Наш гурток выступаў за перадзел панскай зямлі, за беларускую мову, за ўз'яднанне беларускага народа. Спрабавалі адкрыць беларускую школу ў Касічох – не дазволілі. Тады мы пачалі рыхтаваць спектакль "Паўлінка" па п'есе Янкі Купалы. Я выконваў ролю настаўніка, а ролю Паўлінкі дзеўка з Заброддзя.**

Але паставіць спектакль паліцыя не дазволіла. Тады я, Сымон Кунавіч (здаецца, з Мішутаў) ды Іван Пракопавіч Салавей сабралі ў сялян узносы і стварылі ў Войстаме кааператыўную краму, у якой былі невысокія цэны на тавары, што выклікала незадавальненне ў іншых лавачнікаў.

Аднойчы ў нашай краме, дзе прадаўцамі былі Іван Салавей і Сымон Кунавіч, а я быў членам рэвізійнай камісіі таго кааператыва, паліцыя зрабіла ператрус і знайшла забароненую савецкую літаратуру.

Я тады ў краме не працаваў, а быў дома і працаваў у паноў. Кааператыў закрылі, а ўзносы сялян-пайшчыкаў прапалі. Прапалі грошы і тайго бацькі (Вінцэся Пятровіча Барыса), і іншых сялян. Івана Салаўя пасадзілі ў турму на пяць гадоў. Сымон Кунавіч быў нейкі час пісарам у Войстамскай гміне, але вылецеў з гэтай пасады.

Ад Грамады ў сейме было 11 паслоў і 3 сенатары. Яны выступалі за ўз'яднанне Заходняй Беларусі з Усходняй. У хуткім часе і Грамада была забароненая.

Будучы сябрам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, я перайшоў граніцу Савецкай Беларусі. Мне сказалі: "Злачынства ты на захадзе не зрабіў, то ідзі назад. Па-добраму да нас не ідуць" . А я дурань прасіўся у іх, каб мяне да сястры Стасі ў Сібір адправілі. Яна там замужам была за іжанскім дзецюком Іосіфам (Язэпам) Кізікам. Пасля яна з ім разышлася. А я яе дачку Ніну знайшоў. Да нас потым прыязджала і ездзіла ў Беларусь да цёткі Мані ў Ралічы. Мяне не прынялі ў СССР, бо паміж Польшчай і СССР існавала дамова не браць перабежчыкаў. На пачатку 30-х гадоў я паехаў у Францыю.

На фэсце ў Рацавічах беларускі пасол выступаў, дык староста выклікаў паліцыю (гаворка хутчэй за ўсё пра Флягонта Валынца, дэпутата сейма, віляйчаніна. – Рэд.). Сымон Варановіч стаў абараняць пасла: "Яму можна гаварыць, а нам яго слухаць". Паліцэйскі стаў страляць і параніў таму Сымону галаву. А пасол прадоўжыў гаварыць. А паліцэйскаму толькі дзягу знялі.

**Як я трапіў у Францыю? Была вярбоўка ў Францыю. Стаялі людзі ў калейцы, каб зайсці ў кантору і замальдавацца на паездку. І потым было некалькі медыцынскіх камісій. Мяне ў польскае войска не ўзялі: ці ім я там не трэба быў, ці можа прызналі мяне па здароўі не вартым, бо пасля другой спробы трапіць у СССР я пачаў прыдурвацца.**

Паліцэйскі ўбачыў, што я заняў чаргу для паездкі ў Францыю, падышоў да мяне як стары знаёмы і кажа: "Варановіч, хочаш у Францыю на работу паехаць?" Адказваю яму: "Хачу". "Пойдзем са мной. Мы дапаможам". Завялі мяне паліцэйскія ў кантору да вярбоўшчыкаў і без чаргі ўсё афармілі. І медыцынскую камісію ў Вілейцы і Вільні лёгка прайшоў. Здаровы быў. А паліцэйскія дапамаглі мне, каб тут ім парадак не псаваў, супраць улады людзей не настройваў. Хай лепей едзіць за мяжу і грошы зарабляе. Тут цішэй будзе. І, напэўна, яны мелі рацыю. Пра свае блуканні ў Францыі я ўжо твайму брату Сеньку расказаў.

З маім сябрам Іванам Пракопавічам Салаўём пры нацысцкай акупацыі было шчаслівае здарэнне. Яму даводзілася ўвесь час хавацца ад немцаў. Ён жыў на хутары ў Кузьмішках. Здраднікі данеслі нацыстам, што ён звязаны з партызанамі. Яго хацелі арыштаваць і прыйшлі за ім. Але яго прыгажуня-жонка Вольга паспела схаваць мужа раніцай у печы і пакласці спераду галлё. Сабака стаў каля печы на дыбы і забрахаў. Немцы паглядзелі ў комін, там нікога не было, і пайшлі з хаты. Яны паехалі. Аб гэтым хутка даведалася ўся вёска.

У Францыі ў час вайны, каб зарабіць на сям'ю, я працаваў у нямецкім гарнізоне. Камендант сказаў: "1 Мая не працуйце. Я заплачу, як працавалі. Толькі не ідзіце на дэманстрацыю, а то страляць буду. На новы год заплачу, калі ён не ў нядзелю. Святкуйце. У суботу раней дамоў пойдзеце. Так у немцаў".

На гэта я сказаў працоўным французам, палякам і іншым, што ня можа так камендант плаціць, абдурвае ў рабоце, недзе ўрве". Прывязуць сена фермеры. Яго трэба было дзяліць: сухое – у адну сцірту, а сырое – у другую. Мы змешваем сырое сена з сухім, і назаўтра дыміць сціртa. Зноў разбіраем. Таксама было і са збожжам, якое адпраўлялася ў Германію. Раптам перакладчык-паляк сказаў мне, каб я хутчэй змываўся. Немцы пра цябе казалі: "Ён шмат гаворыць. Трэба яго адправіць у Германію". Я змыўся адтуль.

Пасля Другой сусветнай вайны я стаў членам Французскай камуністычнай партыі і членам Саюза савецкіх патрыётаў. Прапанавалі мне пераехаць у Савецкі Саюз. Я пагадзіўся, бо там працуюць на сябе, а не на пана. Можна было застацца ў Ашмянах. Там мне далі б хату якога-небудзь збеглага паляка. Але працаваць дзе? І я паехаў у Яраслаўль на такі ж завод, на якім працаваў у Францыі. У Яраслаўлі была чарга перасяленцаў у Калінінград, але мне сказалі: "Туды ты не паедзеш".

**Успаміны запісаны Сымонам БАРЫСАМ 5 снежня 1962 года ў Яраслаўлі і потым дапоўнены ў пачатку 1970-х гадоў Сымонам БАРЫСАМ.**


Фота забеларускае Вольгай КОЛАСАВАЙ.

**Даведка "РГ". Флягонт Ігнатавіч Валынец**
(8 студзеня 1879, Вілейка – 3 лістапада 1937 (паводле іншых звестак 9 кастрычніка 1941 года), Сандармох, Карэла-Фінская АССР (цяпер Мядзвеж'ягорскі раён, Карэлія, Расія) – беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, педагог.
У 1897 годзе скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю.
У 1900-м – курсы па падрыхтоўцы народных настаўнікаў пры Свянцянскім народным вучылішчы. Настаўнічаў на Віленшчыне. За палітычную ненадзейнасць пасля рэвалюцыі 1905-07 гадоў пазбаўлены права выкладаць. Працаваў страхавым агентам. У 1916 – 1917 гадах служыў вайскоўцам у Мінску. Ад лістапада 1917 года – гарадскі галава Вілейкі, з лютага 1918-га – старшыня гарсавета; у час нямецкай акупацыі абраны жыхарамі горада бургамістрам. Летам 1920 года быў старшынёй рэвалюцыйнага камітэта Вілейкі.
У 1920-х гадах неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1925-26 – член Вілейскага павятовага камітэта БСРГ, ад снежня 1927 года – член Галоўнай управы Таварыства беларускай школы. Разам з сенатарам А. Уласавым і Р. Шырмам актыўна ўдзельнічаў у працы павятовых і акруговых упраў ТБШ.
У 1928 і 1930 гадах абіраўся дэпутатам польскага сейма. Адзін з кіраўнікоў рэвалюцыйнай арганізацыі "Змаганне". Пасля роспуску сейма 30 жніўня 1930 арыштаваны, прыгавораны да 8 гадоў зняволення. Член КПЗБ з 1932.
15 верасня 1932 года ў выніку абмену палітычнымі зняволенымі пераехаў у Мінск. Працаваў у Наркамаце камунальнай гаспадаркі БССР. Арыштаваны 31 жніўня 1933 года па справе "Беларускага нацыянальнага цэнтра". 9.1.1934 Калегіяй ДПУ БССР прыгавораны да расстрэлу, замененага 10 гадамі лагераў. Сасланы на Салаўкі. 9 кастрычніка 1937 Асобай "тройкай" УНКВД па Ленінградскай вобласці прыгавораны да расстрэлу. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара (Сандармох) Карэла-Фінскай АССР (цяпер Мядзвеж'ягорскі раён, Карэлія, Расія). Рэабілітаваны па абодвух прыгаворах 16 жніўня 1956 года.

### КАЛЯНДАР

**23 КАСТРЫЧНІКА**

**35 гадоў** назад (1981 год) памёр Якуб Міско, пісьменнік, журналіст. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

**1941 год.** У савецкім канцлагеры на лесапавале ў Сібіры забіты Васіль Шашалевіч, драматург.

**24 КАСТРЫЧНІКА**

**1656 год.** Падпісанае Віленскае перамір'е паміж Расійскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай аб спыненні вайны, якая пачалася ў 1654 годзе.

**1795 год.** Адбыўся трэці падзел Рэчы Паспалітай.

**25 КАСТРЫЧНІКА**

**25 гадоў** назад (1991) у Нью-Ёрку памёр Антось Галіна (сапраўднае Міхась Міцкевіч), пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША, брат Якуба Коласа. Ён быў малодшы за свайго брата на 15 год. Выбар псеўдоніма тлумачыцца проста. Антосем клікалі любімага дзядзьку братоў Міцкевічаў. Галіна – як працяг іх роду. Да вайны Міхась Міцкевіч працаваў дырэктарам школы ў Мікалаеўшчыне, падчас нямецкай акупацыі – інспектарам беларускіх школ на Стаўбцоўшчыне. Разумеючы, што з прыходам Саветаў ён можа трапіць у лагер, з'ехаў у 1944-м на Захад і больш ніколі не бачыўся з братам. Спачатку жыў у лагерах для перамешчаных асоб, а ў 1950-м перабраўся за акіян, у ЗША, дзе актыўна ўдзельнічаў у працы Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Тым часам у Беларусі Міхася Міцкевіча выкраслілі з гісторыі. У 1974-м выйшаў фотаальбом "Якуб Колас. Жыццё і творчасць". На адной са старонак былі прадстаўленыя партрэты ўсіх братоў і сясцёр пісьменніка. Зразумела, апроч грамадзяніна ЗША. Абураны, той пісаў сваякам у БССР: "Гэтымі днямі атрымаў атлас пра Коласа. Там ёсць здымкі Уладзі, Алеся, Лены, Юзіка, Міхаліны, Юзі і твой, Маня. А я хіба не існую?.." Міхась Міцкевіч ніколі не быў жанаты. Дзяцей у яго таксама не было. Памёр брат Якуба Коласа 25 кастрычніка 1991 года на 95-м годзе жыцця. Пахаваны на беларускай частцы могілак у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі).

**26 КАСТРЫЧНІКА**

**115 гадоў** з дня нараджэння Дзмітрыя Маўчанскага (1901 – 1979), камандзіра партызанскай брыгады. Яго імем у Маладзечне названая вуліца.

**27 КАСТРЫЧНІКА**

**105 гадоў** з дня нараджэння Міколы Лобана (Мікалай Паўлавіч; 1911 – 1984), беларускага пісьменніка, мовазнаўцы, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Залессе: адчуйце сябе госцем Агінскіх

### Ад экзатычных дрэў да стылізаванага посуду

СМАРГОНЬ

**Пра культурнае жыццё і дзейнасць музея-сядзібы вядомага кампазітара распавядае яго дырэктар Людміла Градзіцкая.**

**– Што змянілася ў маёнтку пасля рэканструкцыі?**

– Сёння экспазіцыя складаецца з 13 залаў, у якія ўваходзяць: музычны салон, камінная зала, кабінет кампазітара, вялікая і малая гасціныя, більярдная, тэатральна-музычная зала, аранжарэя. Пакоі імкнёмся наблізіць да арыгіналу, напрыклад, купляем белыя канапы. У Агінскіх было 13 белых драўляных канапаў, а ў нас пакуль шэсць.

Пачалі ствараць лепшыя ўмовы для саміх турыстаў. Запрацавала гасцініца на дзевяць месцаў. Адчынілася кавярня. Разам са Смаргонскім хлебакамбінатам пачалі выпускаць брэндавыя кандытарскія вырабы – маленькія бісквіты ў выглядзе звяроў, на якіх з крэму зроблены скрыпічны ключ.

Сама кавярня – у былой аранжарэі Агінскага, дзе, паводле інвентару, была летняя сталовая. Нашы наведнікі могуць таксама пазнаёміцца з тымі раслінамі ў аранжарэі і зімовым садзе, якія былі ў Агінскіх. У нас ужо ёсць і лімон, і апельсін, і фінікавая пальма, і туберужы.

Зрабілі надпісы-шыльды для пазначэння памятных месцаў, дзе была альтанка, першая сядзіба, куды адразу прыехаў кампазітар, адрамантаваны масток праз крыніцу.

**– Знешнія змены паўплывалі на культурнае жыццё музея?**

– У нас ёсць розныя праграмы экскурсій, з праглядам фільмаў, з тэатралізацыяй. Спецыяльна для гэтага з дапамогай Смаргонскага райвыканкама набылі касцюмы той эпохі. Гэта вельмі падабаецца турыстам.

Цэлы шэраг навуковых мерапрыемстваў праводзіцца для таго, каб глыбей вывучыць жыццё Міхала Клеафаса Агінскага і яго сям'і, пазнаёміцца з музыкай яго дачкі Амеліі. Кожны месяц праходзяць новыя выставы.

**– А адкуль у музей паступаюць рукапісы, экспанаты?**

– Навуковы кіраўнік **Зінаіда Кучар** ведае амаль усё пра жыццё Агінскага і яго сям'і. Яна накіроўвае нашы дзеянні. Мы супрацоўнічаем з антыкварнай лаўкай, таксама шукаем на розных аўкцыёнах, дапамагае калекцыянер. Шмат экспанатаў падарыў **Уладзімір Шчасны**, член апякунскага савета смаргонскага мясцовага дабрачыннага фонду "Паўночныя Афіны М.К. Агінскага".

Міністр культуры **Міхаіл Святлоў** падарыў нам на адкрыццё ў электронным варыянце каля 6000 лістоў з асабістага архіва Міхала Агінскага на польскай і французскай мовах, і мы маем магчымасць чэрпаць з гэтых ліставанняў новую інфармацыю.

**– Якія планы на будучае?**

– Па-першае, рэканструкцыя паркаў. Мы вывучаем стан нашай гаспадарчай пабудовы, каб аднавіць яе таксама. У праектах рэстаўрацыя млына. Смаргонскі райвыканкам будзе выдзяляць грошы для рэканструкцыі альтанкі – грэчаскага доміка Амеліі, у якім плануем праводзіць канцэрты, як гэта было ў часы жыцця Агінскіх.

Мы ўдзельнічаем у розных праектах, якія дапамагаюць у развіцці музея. Сёлета з дапамогай двух праектаў ужо атрымалі 4,5 тысячы еўра і дазвол Міністэрства фінансаў на выкарыстанне гэтых сродкаў для кавярні.

**Плануем набыць канвектарную печ, маразільную камеру, кава-машыну і посуд, стылізаваны пад той, які быў у сям'і Агінскіх, а таксама з выявамі іх сямейнага герба і відаў маёнтка.**

Не пазней за люты 2017 года будзем праводзіць адкрыццё кавярні з запрашэннем вядомых людзей.

**– Маёнтак Агінскага мае сусветнае гістарычнае значэнне. Турысты з якіх краін наведваюць музей?**

– Шматлікіх. У нас ужо былі польскія групы, расійскія, літоўскія, таксама прыязджалі венесуэльскія, кітайскія і ізраільскія турысты. Людзей з многіх краін цікавіць музыка Агінскага.

**Надзея БОБРЫК,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

# Як горад становіцца камфортным для невідушчых

МАЛАДЗЕЧНА

**На пачатку акцыі "Чалавек з белым кійком" супрацоўнікі прадпрыемства "Энва" Беларускага таварыства інвалідаў па зроку (БелТІЗ) падрыхтавалі зварот у Маладзечанскі райвыканкам.**

Пра падрабязнасці распавядае старшыня пярвічнай вытворчай арганізацыі вядучая ўнутрыведамаснага радыёвузла **Таццяна Саўчанка**.

Зварот – гэта канчатковы дакумент з самымі актуальнымі патрэбамі супольнасці людзей з парушэннямі зроку, вырашыць якія можа толькі мясцовая ўлада. Праца па яго падрыхтоўцы вялася амаль год: паступова збіралі прапановы па паляпшэнні асяродку, пасля абмяркоўвалі, што з патрэб вельмі пільнае, а што можа і пачакаць.

Такі спосаб супрацы стаў пастаянным ад 2006 года, калі адбылася першая сустрэча прадстаўнікоў супольнасці з мясцовай уладай.

**Толькі самі людзі з парушэннямі зроку могуць сказаць, што неабходна зрабіць, каб іх жыццё стала больш камфортным.**

– Вядома, мы не разлічваем, што ўсе нашы патрэбы са спіса выканаюць за месяц, – удакладняе Таццяна. – Мы ж разумеем і эканамічны стан, і магчымасці горада. Але калі б мы не спадзяваліся на выкананне пажаданняў, то і не пісалі б зварот. Не стаіць пытанне, ці выканаюць патрэбы, стаіць пытанне, калі пэўную патрэбу рэалізуюць.

Эфектыўнасць штогадовых зваротаў вымяраецца тым, як моцна змяніўся горад за гэты час. Шмат святлафораў суправаджаюцца гукавым сігналам, нярэдкія ў грамадскіх месцах лесвіцы з пазначанымі першымі і апошнімі прыступкамі. У паліклініцы №2, якая абслугоўвае большасць работнікаў "Энвы", нумары кабінетаў падпісалі буйным шрыфтам.

– Складана вымераць у працэнтах, колькі пунктаў са спіса выконваецца за год, – гаворыць старшыня пярвічнай арганізацыі. – Прыкладна палова. Ёсць пункты, якія не былі выкананыя ў мінулым годзе, і мы іх перанеслі ў сёлетні зварот. Але ж важна разумець, што пазначаныя патрэбнасці вельмі розныя і па сродках, і па маштабе работ, якіх вымагаюць. Ёсць жа розніца па намаганнях паміж тым, каб пазначыць кантрасным колерам прыступкі лесвічных маршаў і каб асвятліць вуліцу.



На заводзе "Энва" на ўсіх лесвіцах пазначаныя яркім жоўтым колерам першыя і апошнія прыступкі. Гэта значна аблягчае арыентацыю для слесара і інваліда першай групы па зроку Валерыя Мазуры.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

### Якія пытанні ўзнялі работнікі "Энвы"

У сёлетнім звароце "Энвы" 17 пунктаў. Сярод іх – рамонт лесвіц грамадскага прызначэння, просьба пазначыць фарбай прыступкі каля некаторых магазінаў і ў парку, абсталяваць тактыльнай плiткай канкрэтныя папулярныя месцы. Некаторыя з просьбаў тычацца толькі людзей з парушэннямі зроку. Напрыклад, абсталяваць кантраснай падсветкай табло аўтобусаў, дадаць гукавы сігнал у некаторыя святлафоры.

– Нашы пытанні могуць быць цікавымі і важнымі для многіх людзей, не толькі з парушэннямі зроку, – тлумачыць Таццяна Саўчанка. – Напрыклад, перспектывы добраўпарадкавання зоны адпачынку ў 6-м мікраараёне. І ўключэнне такіх пытанняў падкрэслівае, што мы не жывём у адасобленым свеце, нас хвалююць тыя самыя праблемы.

Таксама ў тэксце звароту ёсць просьба ладзіць сустрэчы з дэпутатамі на "Энве", каб супрацоўнікі маглі звяртацца па сваіх асабістых пытаннях, не ідучы ў нязручныя для некаторых месцы сустрэч.

### Чым жывуць работнікі "Энвы"

Для людзей з парушэннямі зроку істотныя не толькі камфортныя ўмовы і дапамога ў адаптацыі асяродка пад іх асаблівасці. Не менш важны і так званы сацыяльны безбар'ерны асяродак. Нават калі ўсё абсталююць з улікам асаблівасцяў слаба- і невідушчых людзей, без узаемадапамогі і ўзаемадзеяння з грамадствам будзе складана гаварыць пра паўнавартаснае жыццё. На думку Таццяны, тут многае залежыць ад самога чалавека з парушэннем. Калі ён актыўны і самастойны, то яго заўважаюць і прымаюць на роўных. Па назіраннях жанчыны, калі невідушчыя ў Маладзечне просяць дапамогі, то звычайна ім дапамагаюць. І тут варта весці работу са здаровымі людзьмі – падказваць, як карэктна дапамагчы.

– Любая дапамога вітаецца, – усміхаецца Таццяна. – Але мы заўсёды гаворым не толькі пра праблемы, але і пра дасягненні. У нас столькі таленавітых работнікаў!

Работнікі "Энвы" ўдзельнічаюць у мастацкай самадзейнасці, займаюць ганаровыя месцы ў спаборніцтвах па шашках і шахматах, прымаюць чэмпіянат па настольным тэнісе для невідушчых – штогадовы шоудаўне.

Зварот у райвыканкам – адно з мерапрыемстваў у межах месячніка "Чалавек з белым кійком", накіраванага на прыцягненне ўвагі да людзей з парушэннямі зроку. "Энва" запрашае да сябе псіхолагаў, ладзіць у бібліятэцы "Сустрэчу ля самавара". На гэтай сустрэчы пакажуць фільм з аўдыёвыкарыстаннем. Акрамя рэплік герояў, закадравы голас агучвае ўсё, што адбываецца на экране, каб невідушчы глядач меў поўнае ўяўленне пра фільм.

Праводзяць выставу навінак тыфласродкаў, напрыклад, мадэлі гукавых гадзіннікаў і кампактных павелічальнікаў. Напрыканцы пройдзе сустрэча з прадстаўнікамі выканкама і вялікі канцэрт.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Убачыўшы дачку на білбордзе – ледзь не выпусціла руль

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**На Вялікім Гасцінцы юная спявачка Даша Атрошанка нагадвае з білборда, што Маладзечна сёлета – культурная сталіца.**



Фота забяспечана Дашай АТРОШАНКАЙ.

Даша Атрошанка ля білборда са сваёй выявай.

У іншым месцы яркі надпіс і спакуслівыя ажыны пераконваюць у прыгажосці беларускай мовы.

Сёння вуліцы нашых гарадоў мы ўжо не ўяўляем без білбордаў.

Білборд – вялікая металічная канструкцыя. Таму проста паставіць яго там, дзе захочацца, немагчыма. Як патлумачыла галоўны архітэктар Вілейскага раёна **Галіна Кажарновіч**, за ўсталяванне саміх білбордаў адказвае аддзел архітэктуры райвыканкама. Чалавек, які жадае ўсталяваць білборд, прыносіць сюды заяўку на размяшчэнне сродкаў рэкламы.

А вось пра змест клапоцяцца іншыя. Калі гэта рэклама тавараў ці паслуг, за яе адказвае аддзел гандлю райвыканкама. Тут таксама ёсць пэўныя патрабаванні. Глядзяць, каб усё было эстэтычна, каб выконваліся законы рэкламы. Калі на білбордах ёсць не запоўненыя палі, то яго ўладальнік можа прадаць месца ахвотным.




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Юныя маладзечанцы ля білборда з баксёрам Дзмітрыем Асанавым.

## На білбордах – твары знакамітых землякоў

У райвыканкаме Маладзечна патлумачылі, што амаль усе білборды – прыватныя. Напрыклад, у Маладзечне райвыканкам мае толькі адзін білборд. Таму гарадскія ўлады заўсёды ўдзячныя прадпрымальнікам, калі на свабодных палях можна размясціць сацыяльную рэкламу.

За яе адказвае аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі. Тут могуць заклікаць паасобна збіраць смецце. Не забруджваць рэкі і азёры Беларусі.

Загадчыца сектара ідэалагічнай работы і маладзёжнай палітыкі гэтага аддзела **Раіса Казановіч** патлумачыла, што сацыяльная рэклама на тэмы экалогіі, сям'і, здаровага ладу жыцця – гэта рэспубліканская прапанова. А вось плакаты на білборды з фотаздымкамі знакамітых землякоў замаўляе райвыканкам.

Па словах начальніка аддзела ідэалагічнай работы Вілейскага райвыканкама **Жанны Петух**, у Вілейцы сацыяльную рэкламу часцей размяшчаюць не на білбордах, а на банерах. Іх расцягваюць на сцэнах будынкаў.

Калі ж такая рэклама засцерагае нас не даваць дзецям запалкі ці выконваць іншыя правілы пажарнай бяспекі, то гэта часцей рыхтуюць у МНС.

## Віншуйце маму ў газеце

А калі камусьці з дапамогай білборда захочацца павіншаваць маму з днём нараджэння? Або прызнацца ў каханні? У сталіцы былі падобныя выпадкі.

Раіса Казановіч прыгадала, што такі плакат быў і ў Маладзечне. Недалёка ад бібліятэкі "Верасок" нейкую жанчыну віншавалі з днём нараджэння. Аднак размяшчэнне гэтага віншавання ўзгаднялася ў Мінску.

Увогуле ў Маладзечне гэтага не дазваляюць. Для такіх спраў у горадзе пажадана мець асобны віншавальны білборд.

– Ёсць шмат іншых магчымасцяў павіншаваць дарагога чалавека, – упэўненая Раіса Казановіч. – Гэта і тэлебачанне, і газеты.

Час, на працягу якога павінны вісець плакат на білбордзе, пазначаюць у дагаворы. Аднак калі прырода неяк пашкодзіць яго, плакат здымаюць раней.

## Даша Атрошанка - дзяўчына з білборда

Білбордная гісторыя для таленавітай юнай спявачкі **Дашы Атрошанкі** пачалася вельмі цікава. Даша разам з мамай, **Таццянай**, ехалі на машыне. Мама, вядома, глядзела на дарогу, а Даша – па баках.

– І раптам я як закрычу: "Мама! Там Даша Атрошанка!" – эмацыйна распавядае дзяўчына.

Мама ад нечаканасці ледзь не выпусціла руль. А пасля рассмяялася і сказала, што Даша Атрошанка сядзіць побач з ёй.

Аднак Даша з мамай вярнуліся да білборда, каб разгледзець яго. Зладзілі там фотасесію на радасць прахожым. Але мы і самі былі вельмі задаволеныя, прызнаецца дзяўчына.

Даша кажа, што да яе білборднай папулярнасці сям'я адносіцца станоўча. Яны толькі рады бачыць фотаздымкі сваёй таленавітай дзяўчынкі ў цэнтры горада.

Часам у магазінах незнаёмыя людзі кажуць: "Я ведаю гэту дзяўчыну. Яна спявала на Еўрабачанні".

У раёне, дзе стаіць білборд, Даша бывае рэдка. Аднак калі праязджае міма, заўсёды прыгадвае тыя падзеі жыцця, якія звязаны з гэтымі здымкамі.

На пытанне пра тое, хто яшчэ ў нашым горадзе дастойны білборда, Даша, не задумваючыся, адказала:

– Гэта паэтка, аўтар і выканаўца песень, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Таццяна Атрошанка. Па шчаслівай выпадковасці, яна – мая мама.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Нямецкія валанцёры прыехалі ў Маладзечна, каб самавызначыцца і папрацаваць

МАЛАДЗЕЧНА

**Беларуска-германскае супрацоўніцтва ў 10 маладзечанскай гімназіі доўжыцца ўжо 28 год. Распачынаў яго былы дырэктар цяпер настаўнік нямецкай мовы Барыс Вайцяхоўскі. А ў апошнія гады ў гімназіі сталі працаваць нямецкія валанцёры.**

Сёлета з Германіі сюды прыехалі **Мірыям Кузьменка** і **Тэа Ленцэн.** Мірыям будзе жыць і працаваць у нашым горадзе паўгода. Тэа прыехаў у Маладзечна на год.

Мірыям – немка з украінскімі каранямі. Вось адкуль яе славянскае, звыклае для нас прозвішча. Дзякуючы свайму паходжанню дзяўчына добра размаўляе на рускай мове.

Мірыям ўсебакова развітая асоба. Яна цікавіцца мастацтвам, харэаграфіяй, тэатрам. У гімназіі плануюць, што Мірыям будзе навучаць школьнікаў танцам, а таксама стане кіраваць драматычным гуртком. Усе заняткі, вядома, будуць на нямецкай мове.

**А папярэдніца Мірыям, якая працавала тут у мінулым годзе, на нямецкай мове вучыла гімназістаў выцінанцы.**

Тэа таксама нядрэнна ведае рускую мову. Магчыма, ён стане вучыць школьнікаў спяваць панямецку. Аднак да канца хлопец яшчэ не вызначыўся.

Маладыя людзі сёлета скончылі гімназію ў сябе на радзіме. У нямецкай гімназіі трэба вучыцца не 11, а 13 гадоў. Таму выпускнікі тут больш дарослыя, чым у нас. Ім па 19-20.

У Беларусь Мірыям і Тэа прыехалі, каб павучыцца, папрацаваць, падцягнуць веданне рускай мовы, вызначыцца, чым, у рэшце рэшт, ім хочацца займацца.

Як патлумачыла намеснік дырэктара школы **Таццяна Булко**, у нямецкай моладзі вельмі распаўсюджаны такі "этап самавызначэння". Калі ў нас адразу пасля заканчэння школы выпускнікі імкнуцца ў ВНУ, то іх нямецкія аднагодкі не спяшаюцца гэтага рабіць.

На працягу некалькіх гадоў нямецкія хлопцы і дзяўчаты зарабляюць грошы на вучобу, падарожнічаюць, вызначаюцца, якая справа ім больш па душы. І толькі потым вяртаюцца ў Германію і паступаюць вучыцца.

Папярэдне дамовіўшыся з настаўнікамі, Тэа і Мірыям наведваюць урокі нямецкай мовы ў гімназіі. Часам проста назіраюць, як педагог праводзіць заняткі.

**А здараецца, што і самі спрабуюць сябе ў ролі настаўнікаў. Напрыклад, праводзяць які-небудзь фрагмент урока. Гэта можа быць арганізацыйны пачатак або гульня з вучнямі ў канцы.**

Такія "настаўнікі" ўсяго на два-тры гады старэйшыя за вучняў 9-11 класаў. Таму часам узнікаюць і сяброўскія адносіны паміж немцамі і беларускімі школьнікамі.

Вучні гімназіі часта ўдзельнічаюць у рэспубліканскіх алімпіядах па нямецкай мове. А для таго, каб там дастойна выступіць, трэба добра валодаць размоўнай мовай. Валанцёры дапамагаюць настаўнікам падрыхтаваць вучняў да такіх алімпіяд.

Па словах Таццяны Булко, гасцям з Германіі падабаецца Беларусь. Яны заўсёды заўважаюць, што тут жывуць культурныя і гасцінныя людзі.

З задавальненнем валанцёры падарожнічаюць па Беларусі. Часта бываюць у Мінску, ужо ездзілі ў Віцебск. Плануюць паездку ў Брэст. А Маладзечна яны лічаць прыгожым, чыстым і ўтульным горадам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




## Перад тым як сесці на дыету, накарміце ката

**“РГ” сумесна з фітнес-клубам “Тытан” запусціла праект “Зорка з трэнажоркі”. Цягам трох месяцаў у газеце трэнер дае парады, як пахудзець, а я, слухаючыся яго ва ўсім, праверу парады на сабе.**

Блізіўся да завяршэння першы тыдзень дыеты. Як гаворыцца, нічога не прадвяшчала.

Тыдзень без солі даваў пра сябе ведаць. Таму калі я купіла на абед марскую капусту, я ледзьве не расплакалася ад таго, што ў ёй быў хоць нейкі смак. Пакуль я ела салёную капусту, каля пліты астывала звараная рыба. Я толькі на пяць хвілін адышлася, а калі вярнулася, то ўбачыла, што мой кот даядае апошні кавалак яшчэ гарачага мінтая. У той дзень ад такой несправядлівасці і ад таго, што засталася без абеду, узяла і з'ела зефір.

Гэта быў, бадай, адзін раз, калі адступілася ад дыеты. Пра гэта трэнеру не расказала, затое на наступны дзень у зале займалася з падвоенай сілай.

Трэнер **Руслан Дунец** быў заняты і дэлегаваў мне трэнера **Алега Чвайкоўскага.**

Трэніроўка ў Алега была жорсткая. Па-першае, ён прымусіў усе практыкаванні рабіць па тры падыходы.

Практыкаванне, у якім трэба было, абапіраючыся на апору, падымаць ногі, я крычала, што змагу зрабіць толькі два разы. Як жа! З Алегам зрабіла 45 разоў як міленькая.

Што датычыцца пытання, што браць з сабой на трэніроўку і як харчавацца да і пасля, то ў “Тытане” адказалі, што есці пажадана за гадзіны паўтары да трэніроўкі і, калі ваша мэта скінуць вагу, то цягам дзвюх гадзін пасля трэніроўкі есці непажадана ўвогуле.

А што браць з сабой, можна прасачыць за тымі, хто займаецца побач. Як правіла, у кожнага наведніка ёсць бутэлечка з вадой або з нейкімі харчовымі дадаткамі, ручнік, каб выціраць пот, або напульснік ці павязка на галаву. Найбольш прасунутыя прыходзяць у пальчатках і іншай спецыяльнай форме.

Вельмі цешыць і тое, што мая ідэя атрымала водгук у чытачак газеты.

На сайт прыйшлі паведамленні з пытаннем да Руслана Дунца. Дзяўчаты пытаюцца, чым замяніць салодкае падчас дыеты, калі торты праносіцца перад вачыма, і ці магчыма дамагчыся спартыўнай формы пасля 45 гадоў.

Наконт таго, ці не позна пачынаць займацца спортам пасля 45 гадоў, Руслан адказаў:

– Наадварот, самы час. У гэтым узросце мышцы не такія пругкія, таму пры спецыяльных трэніроўках нашы інструктары, вядома, змогуць накіраваць і скарэктаваць фізічныя нагрузкі, каб чалавек па-ранейшаму заставаўся ў спартыўнай форме.

Што ж датычыцца адмовы ад салодкага, пацярпіце яшчэ тыдзень, Руслан ведае некалькі дзейсных спосабаў. Пра іх чытайце праз тыдзень.



# Паралімпійская зборная Азербайджана – два маладзечанцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Гэта чыстая праўда. Толькі з адной акалічнасцю – паралімпійская зборная па плаванні. У яе, насамрэч, уваходзяць толькі два маладзечанцы – Раман і Дзмітры Салеі.**




Фота забяспечанае Раманам САЛЕЕМ.

Раман Салей на цырымоніі ўзнагароджання.

З Раманам пасля таго як ён стаў сярэбраным прызёрам Паралімпійскіх гульняў у Рыа-дэ-Жанейра, мы сустрэліся ў Маладзечне, дзе ён жыве па-ранейшаму і больш за тое, плануе купляць тут кватэру і замацавацца. Тым больш, пасля Паралімпіяды Раман знайшоў нарэшце час і ажаніўся.

Але аб усім па парадку.

– Пасля Паралімпіяды стаў задумвацца аб тым, каб набыць кватэру ў сваім родным горадзе і застацца тут жыць. У Азербайджане праца, а тут дом, сям'я, радзіма.

Раман і Дзмітры з 2013 года трэніруюцца ў сталіцы Азербайджана Баку.

– А як Беларусь і Азербайджан дамовіліся, што мы можам прадстаўляць краіну на спаборніцтвах, так і сталі прадстаўляць ужо Азербайджан. Дзмітры ўпершыню выйшаў на старт у 2104 годзе, я – у 2015. Потым быў чэмпіянат свету і гульні свету, дзе я заваяваў два бронзавыя медалі і тры сярэбраныя. Там кваліфікаваўся на Паралімпіяду і прыехаў у Рыа.

Рыа-дэ-Жанейра сустрэла гарачынёй у 30 градусаў.

– Мы там прабылі 20 дзён. Калі закончыліся спаборніцтвы, быў час пагуляць па горадзе, паглядзець на славутасці, пакупацца ў акіяне. Многія спартсмены скардзіліся на тое, што ўмовы для прыжывання жудасныя. Гэта сапраўды так. Але мы ж не жыць туды прыехалі. А 20 дзён можна і пацярпець.

Вольны час, прызнаецца Раман, быў пасля таго, як закончыліся спаборніцтвы.

– Паехалі мы глядзець горад, купацца ў акіяне, праз гэта спазніліся на цырымонію закрыцця Паралімпійскіх гульняў. Але я не шкадую, таму што Бразілія пакінула пасля сябе станоўчыя эмоцыі.

– І акрамя сярэбранага медаля я з Бразіліі нават нічога не прывёз.

Медаль свой Раман паказаў. Ад Алімпійскага ён адрозніваецца толькі эмблемай, якая ў паралімпійцаў свая. А так такі ж самы. Адметнасць бразільскага медаля ў тым, што ён звініць, быццам дзіцячая бразготка.

Раман заваяваў сярэбраны медаль у дысцыпліне на 100 метраў на спіне.

– Плаванне – гэта такі від спорту, дзе ўсё вырашаюць долі секунды. На першы погляд здаецца, што ўсе восем спартсменаў прыйшлі адначасова, і толькі пры праглядзе відэа бачна, хто першы дакрануўся да борціка.

Галоўнае расчараванне Рыа, прызнаецца Раман, у тым, што ён так і пастаяў на адным п'едэстале з братам Дзімам.

– Там, дзе я заваяваў серабро, Дзмітры прыйшоў чацвёрты ці пяты, там, дзе Дзмітры быў другім, я застаўся па-за п'едэсталам.



Фота забяспечанае Раманам САЛЕЕМ.

Прэзідэнт Азербайджана Ільхам Аліеў пасля Паралімпіяды павіншаваў Рамана і ўручыў ордэн.

Калі браты Салеі вярталіся ў Азербайджан, хлопцаў папярэдзілі, што раніцай іх у складзе дэлегацыі паралімпійцаў хоча бачыць прэзідэнт краіны **Ільхам Аліеў.**

– Гэта было хвалююча, калі сам прэзідэнт знайшоў час, каб павіншаваць кожнага асобна, знайсці патрэбныя словы. Рамана ўзнагародзілі ордэнам “За службу Айчыне” трэцяй ступені.

Фотаздымак з прэзідэнтам Азербайджана стаіць у Рамана каля ложка.

– У такія моманты разумееш, для чаго ты сябе прымушаеш кожны дзень трэніравацца. Хаця, прызнаюся, хацелася не раз усё кінуць, асабліва калі перад Алімпіядай былі трэніроўкі па два разы на дзень без выхадных. Потым разумею, што я хачу гэтым займацца, што люблю плаванне. Але, як прыехаў дадому пасля Паралімпіяды, у басейн не хадзіў. Адпачываць планую да Новага года.

Пасля Паралімпіяды 22-гадовы Раман ажаніўся. На пытанне, ці было гэта мерапрыемства запланавае менавіта на пасля Паралімпіяды, Раман прызнаўся, што зрабіў прапанову сваёй дзяўчыне Ганне яшчэ год таму.

– Проста пасля Паралімпіяды нарэшце з'явіўся вольны час, мы і згулялі вяселле.

Ганна, прызнаецца Раман, самая шчырая яго прыхільніца.

– Яна вельмі перажывае, калі я выходжу на старт. Ніколі трансляцыю не глядзіць. Толькі потым, калі вядомыя вынікі, пераглядае паўтор.

**P.S. Пасля Паралімпіяды братам Салеям рабілі прапанову выступаць за некалькі іншых краін. Акрамя Беларусі.**

**Наталля ТУР.**

● ГАРАСКОП
21-27 КАСТРЫЧНІКА

**Авен**. Вучыцеся "расшыфроўваць" сігналы, якія пасылае вам падсвядомае "Я" і ўнікаць ў знакі вышэйшай волі, што будуць сустракацца на вашым шляху. Гэта стане памочнікам у справах.

**Цялец**. Калі вы шукаеце спакой ва ўсё гэтай мітусні, то знайсці яго зможаце толькі ўнутры сябе, у адзіноце. Вы можаце адчуваць сябе па-дзіцячы лёгка, але ў тым выпадку, калі самі сабе гэта дазволіце.

**Блізняты**. Праявіце ўвагу да іншых людзей, пастарайцеся па магчымасці дапамагчы ім. Не праяўляйце негатыўных бакоў жыцця – скнапнасці, холаднасці, абыякавасці.

**Рак**. Не адкладвайце справы на потым, і вы ўбачыце, як можна ўсё лёгка і хутка вырашыць.

**Леў**. У вас можа пагоршыцца настрой ад таго, што справы ідуць не так, як планавалі. Стан, які можна ахарактарызаваць словамі "гора ад розуму". Пераключыце ўвагу, а пасля знаходзьце шляхі выхаду з сітуацыі.

**Дзева**. Вы адарваныя ад жыцця, не ўспрымаеце яго ў поўнай меры і можаце зусім забыць пра надзённыя праблемы. Будзьце больш прыземленымі.

**Шалі**. Вам неабходна пераасэнсаваць сваё жыццё, змяніць некаторыя погляды на яго. І калі гэта не зрабіць свядома, то рана ці позна ўнутранае абнаўленне адбудзецца без вашага жадання.

**Скарпіён**. Каб скінуць груз стомленасці і зноў вярнуцца да жыцця, вам дапаможа невялікае свята ці проста прыемны вечар у кампаніі сяброў.

**Стралец**. Вас ахопіць лёгкасць, быццам крылы выраслі. Вам будзе ўтульна дома, у цёплай сямейнай абстаноўцы. Менавіта ў такія часы прыходзяць карысныя ідэі.

**Казярог**. Вас можа ахапіць сум і расчараванне, пачуццё страты. Гэтаму будуць папярэднічаць рэальныя падзеі. Але ў вашым жыцці ўсё не так дрэнна, не накручвайце сябе. Азірніцеся, і вы зразумееце, што ёсць яшчэ мноства радасных момантаў.

**Вадалей**. Разлічвайце на іншых людзей, калі вам трэба дапамога. І не бойцеся іх звяртацца. Вы можаце пераняць іх мудрасць, досвед, а таксама пачаць нейкую сумесную справу.

**Рыбы**. Не бярыце быка за рогі, каб атрымаць жаданае. Бо, дасягнуўшы мэты такім чынам, вы можаце расчаравацца ў ёй.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

# Атрымай смартфон за адно фота

"Рэгіянальная газета" сёлета шчодрая, як сама восень. І калі вы ніяк не можаце паўдзельнічаць у конкурсе "Дзясятачка", каб выйграць планшэт за выдатную вучобу, то далучайцеся да нашай акцыі "Не губляй ніводнага дня!"

Дасылайце на нашу пошту regionnews@rh.by свае самыя лепшыя фотаздымкі, зробленыя за 2016 год. Пакажыце, што вы карыснае і прыемнае захавалі ў сваім банку шчаслівых момантаў.

У конкурсе будзе два пераможцы. Адзін атрымае прыз глядацкіх сімпатый – лепшага ў гэтай намінацыі вызначым праз галасаванне на нашым сайце rh.by.

Другога чакае Гран-пры – менавіта яго здымак упрыгожыць штогадовы фірменны каляндар "Рэгіянальнай газеты". Гэтага пераможцу вызначаць работнікі "Рэгіянальнай газеты".

А ў дадатак абодва пераможцы атрымаюць у падарунак ад рэдакцыі смартфоны.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы з усяго рэгіёна ад 7 да 26 кастрычніка. 26 мы і размесцім на нашым сайце галасаванне за прыз глядацкіх сімпатый. 31 кастрычніка мы абвесцім пераможцаў конкурсу.

**Аддзел інфармацыі.**

# Квяцістая капуста



Гэта капуста сваю назву атрымала не за яркі колер, а за суквецці, якія нагадваюць далікатныя бэжавыя кветачкі. У іх утрымліваецца ў два разы больш жалеза, чым у зялёным гарошку, перцы і салаце. Ёсць і шмат магнію, натрыю, калію, фосфару, кальцыю і каштоўнейшых вітамінаў: А, К, С, В1, В2, В6, Е, Н.

*1 качан квяцістай капусты, 1 ст. лыжка алею, 300 мл ёгурту, але яго можна замяніць густым кіслым малаком, сок 1 лімона ці лайма, 2 ст. лыжкі парашку чылі, 1 ст. лыжка кмену, 1 ст. лыжка націснутага часнаку, 1 ч. лыжка парашку кары, 1 ч. лыжка чорнага перцу, 2 ч. лыжкі солі.*

Разагрэйце духоўку да 200 градусаў і змажце бляху алеем. Добра прамыйце капусту і выдаліце любыя зялёныя лісточкі.

У місцы змяшайце ёгурт з сокам лімона, парашком чылі, кменам, часнаком, парашком кары, соллю і перцам. Пакладзіце капусту ў міску і абмажце марынадам. Выкладзіце на бляху, няхай запякаецца ў духоўцы 30-40 хвілін. Марынад зробіць на паверхні квяцістай капусты скарыначку. Дайце капусце астыць 10 хвілін і падавайце.

**Парада.** Нельга гатаваць квяцістую капусту ў алюмініевым ці жалезным посудзе, таму што метал пачынае ўступаць ў рэакцыю з хімічнымі злучэннямі, якія знаходзяцца ў складзе капусты.

**Проста МАРЫЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | | 7 | | 3 | | |
| | | 1 | 9 | | | 5 | 2 | |
| | | | | | 5 | | 7 | |
| 5 | 9 | 7 | | | | | | 2 |
| | | | | 2 | | | | |
| 8 | | | | | | 4 | 5 | 6 |
| | 7 | | 4 | | | | | |
| | 2 | 5 | | | 1 | 9 | | |
| | | 6 | | 9 | | 2 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Далучайцеся да конкурсу "Дзясятачка"

## Выйграй планшэт за выдатную вучобу

**У чацвертым туры нашага конкурсу "Дзясятачка" перамагла Паліна Клімовіч з Маладзечна.**



Фота Наталі ГУР.

Аня Грыдзюшка з настаўнікам Дзмітрыем Станіслававічам Януковічам у маладзечанскай школе №14.

Шчаслівым аказаўся бланк з "10" па гісторыі дзевяцікласніцы школы №12. Дзяўчынка атрымае фірменны падарункі ад "Рэгіянальнай газеты".

14 кастрычніка прадстаўнікі рэдакцыі ўрачыста ўручылі падарункі пераможцы трэцяга туру конкурсу – вучаніцы 5 "А" класа маладзечанскай школы №14 **Ані Грыдзюшкі**.

Паважаныя бацькі і настаўнікі! Далучыцеся да конкурсу дзяцей і вучняў. Дзякуючы конкурсу ад "Рэгіянальнай газеты" "Дзясятачка" вы матывуеце школьнікаў выдатна вучыцца. Выхоўваеце разуменне, што добрымі ведамі можна зарабіць.

Рэдакцыя ўзнагародзіць удзельніка, які дашле найбольш бланкаў, і настаўніка, чые вучні будуць найбольш актыўна ўдзельнічаць у конкурсе.

У конкурсе могуць удзельнічаць вучні ўсіх класаў школ і гімназій з рэгіёна, у якім выходзіць "РГ". Для ўдзелу вам дастаткова выразаць бланк удзельніка, запоўніць і даслаць нам або прынесці ў рэдакцыю.

Адрас рэдакцыі: *222304, Мінская вобласць, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.* Зрабіце на канверце пазнаку **"10-ка"**.

Конкурс праводзіцца ў некалькі тураў. Вынікі тыднёвых тураў мы падводзім па пятніцах у 15 гадзін. Чарговы розыгрыш пройдзе 21 кастрычніка ў рэдакцыі "РГ". У ім будуць удзельнічаць бланкі, атрыманыя да 15 гадзін гэтага дня. Пераможцу мы абяром, выцягнуўшы адзін з бланкаў услепую. Удзельнікі пры гэтым могуць прысутнічаць.

Бланкі, атрыманыя пасля 15 гадзін 21 кастрычніка і да 15 гадзін 28 кастрычніка, будуць удзельнічаць у розыгрышы пятага тура.

Абсалютна ўсе атрыманыя ад 16 верасня да 28 кастрычніка бланкі будуць удзельнічаць у розыгрышы галоўнага прыза – планшэта.

Яшчэ адзін падарунак мы прапанавалі для цэлага класа. На нашым сайце rh.by размешчанае галасаванне за класы, якія прадстаўляюць удзельнікі конкурсу. Той, які набярэ найбольш галасоў, выйграе паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Да ўдзелу дапускаюцца толькі выразаныя з газеты бланкі. Удзельнікам можа стаць вучань, які атрымаў у гэтым навучальным годзе адзнаку "9" ці "10" па любым прадмеце. Колькасць дасланых заявак неабмежаваная, але толькі раз з адной адзнакай і толькі адну адзнаку можна ставіць у адзін бланк.

У графе "подпіс настаўніка" папрасіце паставіць подпіс настаўніка, які паставіў вам адзнаку.

**Жадаем вам поспеху і выдатнай вучобы!**

## Бланк удзельніка конкурсу "Дзясятачка" (№43)




•Імя, прозвішча ____________

•Дата нараджэння ____________

•Клас ____________
•Школа ____________
•Населены пункт ____________

•Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі ____________

•Прадмет, за які атрыманы бал ____________

•Які бал атрымаў ("9" ці "10") ____________
•Дата, калі быў атрыманы бал ____________
•Імя, імя па бацьку і прозвішча настаўніка ____________
•Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам ____________

•Подпіс настаўніка ____________



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 0 / +3 | | +1 / +3 | | +4 / +2 | | +2 / +2 | |
| | 749 | ↖ 5 | 748 | ← 5 | 748 | ↖ 6 | 752 | ↖ 5 |
| Вільня | 0 / +3 | | +2 / +5 | | +4 / +3 | | +2 / +4 | |
| | 756 | ↖ 5 | 755 | ↖ 6 | 755 | ↖ 6 | 759 | ↖ 5 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.56
Захад 17.57
Даўжыня дня 10.01

Усход 23.34
Захад 14.37
Квадра 3




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -4,4 °С у 1994годзе
Максімальная тэмпература + 16,5 °С у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 18 мм у 1993 годзе
Паводле meteoinfo.by

## "НЕ ГУБЛЯЙ НІВОДНАГА ДНЯ"



Фота забяспечана Аленай ГРЫДЗЮШКА.

**Адны з удзельнікаў акцыі "Не губляй ніводнага дня", у межах якой праходзіць конкурс "Атрымай смартфон за адно фота!". Падрабязней пра ўмовы конкурсу чытайце на старонцы 23-й.**
**Вось што ўдзельнікі напісалі пра сябе: "Мы – сям'я Грыдзюшкаў з Маладзечна – тата Дзіма, мама Алена, Анюта і Машачка. Хочам паўдзельнічаць у вашым конкурсе "Атрымай смартфон за адно фота!" і, вядома, выйграць!"**



## Чытайце праз тыдзень:

- **У чысцінскай школе дзеці паказалі спектакль пра непаслухмянае мышаня. Гэта было б звычайнай падзеяй, каб не тая акалічнасць, што ў спектаклі ігралі асаблівыя дзеткі, з асаблівасцямі развіцця. У школе рэалізуецца праграма "Творчасць, якая аб'ядноўвае сэрцы". Пра гэта чытайце ў наступным нумары "РГ".**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як вы ставіцеся да забароны абортаў?



**Анастасія Наур, у дэкрэтным адпачынку:**
– Можа, і варта было б забараніць аборты. Магчыма, маладыя людзі тады б больш адказна падыходзілі да сваіх адносінаў. Асабіста я ніколі б не зрабіла аборт.



**Дзмітры Карысценка, навучэнец:**
– Гэта справа толькі жанчыны. І не трэба, каб нехта вырашаў за яе.



**Алена Цыганкова, касір-кантралёр:**
– Я лічу, што гэта асабістая справа. Аднак цяпер і тэлебачанне, і модныя часопісы прапагандуюць такую сэксуальную разняволенасць! Каб гэтага не было, магчыма, і пытанне пра аборты не прыйшлося б ставіць.



**Антон Кажамякін, навучэнец:**
– Аборт – асабістая справа. Але варта раней думаць галавой, каб не дайшло да гэтага.



**Эля Заслаўская, педагог:**
– З маральнага і рэлігійнага пункту погляду гэта не добрая справа. Але здараецца так, што аборт – адзінае выйсце.



**Мікалай Адам, літаратар:**
– Аборт – справа асабіста жанчыны! Дзяржава не мае ніякага права лезці ў жыццё любога чалавека. Жанчына сама вырашыць, трэба ёй дзіця тое ці не. Дзяржаве ні холадна, ні спякотна ад яе рашэння, дзяржаве абы птушачкі паставіць у чарговай справаздачы, а жанчыне гадаваць, можа быць, нялюбае дзіця, ад згвалтавання.



**Уладзімір Сарочкін, работнік культуры:**
– Справа жанчыны, вядома. Хоць, напэўна, не самая лепшая справа.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№43 (1121) 21.10.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1021. Падпісана ў друк у 9.00 20.10.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.